PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 34 (1997) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 21 ЖНІЎНЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.



*Тамара Тарасевіч з карцінай. Рэпартаж з адкрыцця галерэі чытайце на 8 стар.* Фота Ул. Крука

## Даўным-даўно ў Мельніку

**Мельнік** мае багатую гісторыю. Ён — адна з найстарэйшых мясцовасцей на Беласточчыне. Умацаваны горад існаваў тут ужо ў X альбо XI стагоддзі. Стромкая мельніцкая гара, якая вартуе раку Буг і ўсё наваколле, была дасканалым месцам для заснавання сярэдневяковай крэпасці. Археолагі сцвярджаюць яе існаванне не пазней XI стагоддзя. У дакументах першае ўпамінанне аб Мельніку адносіцца да 1240 года, калі татарская арда здабыла і спаліла крэпасць, а маладых людзей забрала ў палон. Ураталіся толькі тыя, што зашыліся ў непраходныя нетры Мельніцкай пушчы.

У той час татарская навала — адзначыў летапісец — здабыла гарады-цвердзі: Мельнік, Драгічын, Сураж, Бельск і Бранск. З Мельніка асталося няшмат — усяго рэшткі замкавых вежаў, а на месцы даўняга прыгарада — руіны гатыцкага касцёла.

З 1260 года шчасліва захавалася таксама інфармацыя пра царкаўку ў Мельніку валынскага летапісца: „И еха Василько за брата и проводи его до Берестья, и посла с ним люди своя, и помолися Богу, яже есть икона в городе Мельницы в церкви св. Богородицы, и обещася Данило украсити ю..." Была гэта ікона Спаса ў Мельніку. Культ гэтай цудоўнай іконы ахапіў усё Пабужжа, аб чым сведчаць месцы паломніцтва і пабудаваныя ў яго гонар цэрквы ў Драгічыне, Машчоне-Панскай і Сямяцічах.

Пасля кровапралітнага нашэсця татараў Мельнік належаў да Галіцка-Валынскай Русі, потым за яго вялі спрэчкі князі літоўскія з князямі мазавецкімі, і ён часта пераходзіў з рук у рукі. У 1440 годзе князь плоцкі Баляслаў IV прызнае Мельніку гарадскія правы. Але неўзабаве горад зноў пераходзіць ва ўладанне Вялікага княства Літоўскага, і ў 1501 годзе адбываецца ў ім з'езд літоўскіх і польскіх паноў, на якім вялікі князь літоўскі Аляксандр Ягелончык прыняў умовы выбару яго на польскі трон, гэта значыць коштам здабыцця польскай кароны згадзіўся перадаць усё дзяржаўнае кіраўніцтва сенату.

*Мельнік* — назва прыналежная ад асабовай Мельнік. Ужо ў XIII стагоддзі гэтая мясцовасць ды наваколле былі густа населены. Вось адзін з першых запісаў у Іпацьеўскім летапісе пра тутэйшыя землі. „Воеваша Литва около Мельнице... и велик пленъ прияша..." пісаў летапісец пад 1247 годам. З дакументаў XVI стагоддзя відаць, што тут „сядзела" тады многа мельнікаў, бо нават каралеўскі пісар называе іх у сваім „попісе" на падатак „Мельнікамі".

Калісьці мельнік быў майстрам на ўсе рукі: і дойлідам, і кавалём, і меліяратарам, і чым яшчэ толькі. Яшчэ ва „Уставе на валокі" ад 1557 года гаворыцца, што мельнік ва ўладаннях гаспадарскіх (г. зн. вялікага князя літоўскага) атрымоўвае трэцюю мерку з млыва, калі дзве паступаюць на ўласнасць князёўскую. „І за гэтую трэцюю мерку павінен мельнік быць майстрам у доглядзе і абсталяванні млына і спустаў..." А за карыстанне валокай зямлі, што пры млыне, „мае ў замку або двары, якому ён паслушны, адзін дзень на тыдзень цяселькай работай служыць". Потым гэтая служба павялічвалася да двух і болей дзён. З гэтага вынікае, што колішняя магутная крэпасць, якая ўзвышалася на мельніцкай Замкавай гары, была часткова творам рук „сядзеўшых" мельнікаў.

Гарадзішча ў Мельніку, размешчанае на тэрасе Буга, спаўняла ролю падобную да суседняга — адлеглага ў 12 кіламетрах — гарадзішча ў Няміраве, — ахоўвала рачны гандлёвы шлях. У XVI стагоддзі наступае развіццё Мельніка, ён становіца значным гандлёва-рамесніцкім цэнтрам з важным рачным портам. Крэпасць жа страціла сваё мілітарнае значэнне і ператорвана была ў турму для вязняў-

☞ *Працяг на стар. 3*

## ЛЕТАПІС БЕЛЬСКАГА ЛІЦЭЯ

Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім паўстаў у верасні 1944 года як чатырохгадовая Дзяржаўная гімназія і двухгадовы Дзяржаўны беларускі ліцэй.

Першым яе дырэктарам быў мгр Анатоль Тымінскі, дасканалы матэматык і педагог. Школа змяшчалася ў скромных драўляных будынках пры вул. 3 Мая 12 і Касцюшкі 18. Урокі адбываліся пасля абеду ў вельмі цяжкіх умовах. Мэблю для школы прыдбалі бацькі. У жыцці гімназіі, як падаюць архіўныя матэрыялы, вялікую ролю адыграў Бацькоўскі камітэт, „які падтрымліваў матэрыяльна настаўнікаў, памагаў бедным вучням, а ў крытычныя хвіліны заўсёды знаходзіў нейкі выхад".

У першым годзе існавання школы было 8 аддзелаў і звыш 200 вучняў, працавалі 19 настаўнікаў.

У навучальным годзе 1945/46 было 11 аддзелаў і каля 300 вучняў, працавалі 16 настаўнікаў. У гэтым годзе ліцэй закончыла 12 выпускнікоў з г.зв. „малой матурай". Пад канец гэтага ж навучальнага года дырэктар мгр Анатоль Тымінскі выехаў у Савецкі Саюз, а 16 чэрвеня 1946 года для кіравання Дзяржаўнай беларускай гімназіяй назначаны быў Яраслаў Васільевіч Кастыцэвіч.

У другой палове жніўня 1946 года па загаду Куратарыі Беластоцкай школьнай акругі, Дзяржаўная беларуская гімназія і Ліцэй былі ліквідаваны, а вучні пераведзены ў ліцэй імя Т. Касцюшкі.

Пасля трохгадовага перапынку, дзякуючы намаганням бацькоў і беларускіх дзеячоў, згодна загаду Міністэрства асветы ад дня 20 жніўня 1949 года ўтвараюцца Дзяржаўная агульнаадукацыйная школа пачатковай і ліцэйскай ступені з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім.

Школа зноў пачала працу з 1 верасня 1949 года, а дырэктарам стаў галоўны яе арганізатар, дасканалы педагог і выхавацца, Яраслаў Васільевіч Кастыцэвіч, які ў асяроддзі карыстаўся павагаю і аўтарытэтам. Сотні вясковых дзяўчат і хлопцаў удзячны яму за веды і выхаванне. Адшукаў ён іх, прывёў у ліцэй, каб маглі вучыцца, а ў цяжкія хвіліны дапамагаў, суцяшаў, падтрымоўваў.

У гэты час школа змяшчалася ў двухпавярховым будынку на рагу вул. Міцкевіча і Відаўскай.

Год 1952 — гэта першы, пасля перапынку, экзамен на атэстат сталасці. Здалі яго 21 абітурыент. У школе існуе тады духавы аркестр з 40 чалавек і хор са 100 спевакоў, якімі кіруе Станіслаў Максімовіч. Асабліва аркестр стаў шырока вядомым не толькі ў горадзе, але і за яго межамі. Прыдае ён бляску ўсім урачыстасцям у горадзе, выязджае таксама з канцэртамі ў вёскі, ажыўляе беларускае асяроддзе, прыносіць славу беларускай школе.

З 1950 года ў школе працуе настаўнік беларускай мовы Ільля Захаравіч Бэрнат — незабыўная постаць у памяці многіх выпускнікоў, у якіх развіваў любоў да роднай мовы і культуры.

З году ў год папраўляецца кадравая сітуацыя школы. Гэта выпускнікі ліцэя, пасля заканчэння навучальных устаноў, вяртаюцца ў сваю школу: Рыгор Анацік, Серафіма Кандрацюк, Мікалай Красоўскі, Пятро Анапюк.

Школа развіваецца і патрэбы яе павялічваюцца. Будынак, у якім знаходзіцца яна разам з Пачатковай школай н-р 1, ужо цеснаваты. Навука адбываецца на дзве змены, а ў Пачатковай школе і Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання вучацца пераважна дзеці і моладзь з навакольных вёсак, якім далёка хадзіць і ездзіць у школу.

Дзякуючы намаганням Яраслава Васільевіча Кастыцэвіча, настаўнікаў, а таксама Бацькоўскага камітэта 1 верасня 1958 года адбываецца пасяджэнне камісіі, якая ўступна вызначыла пад пабудову Пачатковай школы і Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання месца ў гарадскім парку, дзе да вайны стаяла царква св. Мікалая, паміж вуліцамі Каперніка, Замкавай і Варынскага.

У цэнтры горада вырастае новы будынак на 17 аддзелаў, у які пераходзіць школа ў пачатку 1961 г.

Моладзі прыбывае. У 1965 годзе наступае падзел школы на Ліцэй і Пачатковую школу н-р 3. У тым жа 1965 годзе адыходзіць на пенсію шматгадовы дырэктар Яраслаў Васільевіч Кастыцэвіч. Новым дырэктарам з 1 верасня 1965 года стае магістр Мікалай Гайдук, вядомы як аўтар многіх падручнікаў па беларускай мове ў пачатковых школах, пісьменнік, журналіст „Нівы", збіральнік фальклору і пазнейшы прапагандыст гісторыі беларускага народа і праваслаўя.

У 1968 годзе Ліцэй набірае трэці аддзел першых класаў — дае гэта магчымасць стварыць уласны настаўніцкі калектыў.

5 сакавіка 1969 года Агульнаадукацыйнаму ліцэю з беларускай мовай навучання прысвойваюць імя Браніслава Тарашкевіча. Браніслаў Тарашкевіч

☞ *Працяг на стар. 5*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Мы хворыя на сындром, імя якому — люмпенства.*

*Люмпенства — гэта калі суботнім вечарам рэдка сустрэнеш на вуліцы цьвярозы твар.*

*Люмпенства гэта калі маладыя хлопцы і дзяўчаты спаборнічаюць паміж сабою ў веданьні ненармаванай расейскае лексікі.*

*Люмпенства — гэта калі ты ніколі не зойдзеш у гарадзкі аўтобус ці тралейбус сам. Бо туды цябе абавязкова ўнясуць. Унясуць незалежна ад таго, пяць ці пяцьдзесят чалавек стаіць з табой на прыпынку.*

*Люмпенства — гэта калі паўсюдна — у краме і ў рэстарацыі ты сустрэнеш мужчынаў і жанчынаў у спартовых штанах. Затое ў імпартавых.*

*Люмпенства — гэта калі ўсё сваё жыцьцё ты сядзіш і чакаеш на добрага бацюхну-цара, які прыйдзе, разьбярэцца, навядзе парадак. І калі нарэшце зьяўляецца такі чалавек, які кажа: „Я дам вам не толькі ўсё, але і ўсім" — тваёй радасьці няма межаў.*

*(Свабода, н-р 27)*

* * *

*Po co rzucać ogień pomiędzy prawosławnymi i Polakami. Pamiętamy, kiedy była jeszcze Polska na tych terenach, nigdy różnicy między nami nie było. Prawosławni chodzili do kościoła razem z nami, a my do cerkwi, jak było trzeba. Przecież mamy jednego Boga.*

*(Głos znad Niemna, nr 28, орган Саюза палякаў у Беларусі)*

Пэўна дзеля экуменічных мэтаў цэрквы ў Заходняй Беларусі пераўтварылі ў касцёлы, каб католікам лягчэй было маліцца ў праваслаўных святынях, а праваслаўным, каб зразумелі, што браты-католікі не пагарджаюць іх спадчынай. Якое гэта ўсё хрысціянскае і высакароднае! Маем жа аднаго Бога над сабою!

* * *

*Polak zatrudniony we włoskiej firmie w Afryce miał pilnować czarnych robotników, aby dobrze i szybko pracowali. Poganiał biedaków niemiłosiernie, a gdy się buntowali, tłukł ich po twarzach. Wyniki były rewelacyjne, Włosi zachwyceni. Wydajność firmy przerastała wszelkie afrykańskie normy. Tylko czarni nie wytrzymali.*

*(Rzeczpospolita, nr 173)*

* * *

*Jeden z posłów PSL tłumaczył swą nieobecność podczas obrad tym, że jako człowiek nowy błądził po Sejmie i nie mógł znaleźć odpowiedniej sali. Jest propozycja, aby w bufecie założyć punkt informacyiny, bo tam trafia każdy poseł.*

*(Polityka, nr 31)*

* * *

*Unia Wolności udała się na emigrację wewnętrzną, odcinając się od jakichkolwiek możliwości współpracy z rządem koalicji postkomunistycznej w Warszawie. Stanowiska ministerialne obsadzone zostały przez prominentnych unitów.*

*(Wprost, nr 23)*

* * *

*Łukaszenko to normalny człowiek i wcale nie taki straszny jak pisała o nim zagraniczna prasa.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 175)*

* * *

*Wybitne zdolności miał nowy polski dyplomata Janusz Łukaszewski. Był on współtwórcą obszernego raportu na wdzięczny temat „spisku nacjonalistów białoruskich pod kierownictwem Włodzimierza Cimoszewicza". Spiskowcy po obu stronach granicy mieli rozwijać działalność przeciwko niepodległej RP.*

*(Super Skandale, nr 28)*

**Прысутнасць Цімашэвіча ва ўрадзе Польшчы абазначае, што беларуская мафія цяпер кіруе гэтай краінай. Якія мы важныя!**

* * *

***Мы знайшлі адну мову з Віктарам Даніленкам (пасол Беларусі ў Расеі, расеец па нацыянальнасці). Большасць кадравых прызначэнняў абмеркаваліся з Віктарам Даніленкам. Дарэчы, Ельцын прасіў не забіраць Даніленку з пасады пасла,*** — сказаў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

*(Звязда, н-р 153)*

Хто затым з'яўляецца сапраўдным прэзідэнтам Беларусі?

* * *

*Polemizując w maju 1942 r. z argumentacją uzasadniającą prawo Polski do ziem wschodnich brytyjski minister spraw wewnętrznych powiedział: Ziemie na wschód od linii Curzona są z natury rzeczy sporne, gdyż zamieszkuje je kilka narodów: Polaków, Ukraińców, Białorusinów, Litwinów. Roszczenia do takich terenów my określamy jako imperializm. Na to, by być imperialistą, trzeba rozporządzać siłą i umieć rządzić. Siły nie macie, a umiejętnością rządzenia też nie wykazaliście się, bo nie było roku by nie przyjeżdżały do Anglii delegacje Ukraińców lub Białorusinów, skarżąc się na wasze rządy. Imperializm w ogóle nie jest piękną cechą, ale jeśli nie jest oparty na sile, staje się śmieszny. Nie rozporządzając własną siłą chcecie realizować wasze imperialistyczne cele naszą siłą. My, mówiąc szczerze, mamy nasze własne cele imperialistyczne, ale nie na tych terenach.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 179)*

* * *

*Na plaży w Dojlidach pijana kobieta obrażała policjantów. Wcześniej odsłoniła pierś, następnie zdjęła dolną część garderoby. Policjanci zabrali kobietę do Izby Wytrzeźwień.*

*(Gazeta Współczesna, nr 144)*

**Замест даценіць ахвярнасць жанчыны, „гліны" невядома чаму адчулі сябе зняважанымі. Няма сапраўдных мужчын у беластоцкай паліцыі!**

* * *

*Od 1 stycznia 1995 r. w Szwajcarii będzie pobierany podatek VAT od prostytucji. Dotychczas prostytucja traktowana była jako działalność o charakterze terapeutycznym i jako taka nie podlegała VAT.*

*(Gazeta Współczesna, nr 144)*

„Działalność terapeutyczna" — **гэта гучыць цалкам прыстойна.**

* * *

*Najwięcej turystów nad Morzem Śródziemnym przybywa obecnie z byłych republik radzieckich. Szaleństwa Rosjan ograniczają sią tylko do wydawanie pieniędzy. Po za tym są oni na ogół bardzo spokojni, grzeczni, powściągliwi i dobrze ubrani. Jeden z rosyjskich biznesmenów stwierdził, że we Francji czy Hiszpanii wszystko jest bardzo tanie.*

*(Gazeta Współczesna, nr 14)*

# З мінулага тыдня

**Адрыў ад Расеі Украіны і Беларусі** — гэта тое ж самае, што пасляваенны падзел Нямеччыны і таксама як той апошні не вытрымае ён выпрабавання гісторыі, — сказаў **Аляксандр Салжаніцын** у тэлевізійным інтэрв'ю. Былы расейскі дысідэнт паслядоўна абараняе канцэпцыю Вялікай Расеі, у састаў якой уваходзілі б славянскія рэспублікі і Казахстан.

**Чэшскае інфармацыйнае агенцтва ЧТК** паведаміла, што прэм'ер-міністр Венгрыі **Джуля Горн** падчас размовы з прэзідэнтам Славакіі **Міхалам Ковачам** папрасіў нацыянальныя меншасці прабачэння за ўсе крыўды, якія ім учынілі венгры. Гэтае паведамленне выклікала сапраўдную буру ў венгерскім друку. Прэс-сакратар венгерскага прэм'ера абвяргнула сенсацыі агенцтва ЧТК, а прэм'ер-міністр Горн падкрэсліў, што было б мэтазгодна, каб гэта ўлады Славакіі схацелі папрасіць у венгерскай нацыянальнай меншасці ў гэтай краіне прабачэння за дэкрэты Бенеша. На думку Горна, мела б гэта станоўчы ўплыў на адносіны паміж Венгрыяй і Славакіяй у будучым.

**Прэзідэнт Лех Валэнса** звярнуўся ў Канстытуцыйны Трыбунал з просьбай сцвердзіць нязгоднасць пастановы Сейма ад 2 ліпеня 1994 г. „аб спосабе прац па законе аб ратыфікацыі Канкардата" з Малой Канстытуцыяй і канстытуцыйнымі палажэннямі. Прэзідэнт мяркуе, што пастанову Сейма можна палічыць „адмоўным рашэннем адтэрмінаваным у часе, а пры нагодзе пастаўленым у залежнасць ад будучых палітычных здарэнняў, такіх хаця б як вынікі прэзідэнцкіх выбараў або канстытуцыйнага рэферэндуму".

**Прэзідыум Краёвай камісіі „Салідарнасці"** накіравала ў Канстытуцыйны Трыбунал прашэнне праверыць згоднасць з Канстытуцыяй закона, які абмяжоўвае рост заработнай платы ў дзяржаўных прадпрыемствах (т. зв. неапапівак).

**Этнаграфічная экспедыцыя** Інстытута археалогіі Польскай акадэміі навук праводзіла ў ліпені на тэрыторыі Беларусі даследаванні нацыянальнай і культурнай свядомасці мясцовых палякаў. Гэтыя доследы складаюць частку праграмы „Польска-беларускія кантакты". Сёлетнія працы праводзіліся ў „польскіх" вёсках і колішніх шляхецкіх засценках у раёне Налібоцкай пушчы. Даследаванні датычылі працэсу фармавання пачуцця нацыянальнай і этнічнай тоеснасці.

**Міжнародны семінар** для лідэраў праваслаўных маладзёжных арганізацый праходзіў у Супраслі. Удзельнічалі ў ім госці, між іншым, з ЗША, Кіпра, Італіі, Украіны. Удзельнікі семінара сустрэліся з архіепіскапам Беластоцкім і Гданьскім **Савам**. Падчас сустрэчы абмяркоўваліся пытанні становішча Праваслаўнай царквы ў Польшчы, стварэння праваслаўнага ардынарыята ў Войску Польскім і міжнароднага супрацоўніцтва праваслаўных.

**Міністэрства фінансаў** зацвердзіла ліміт выдаткаў для паасобных ваяводстваў на 1995 год. Беластоцкаму ваяводству вызначана ліміт вартасцю ў 2 більёны 377 мільярдаў 500 мільёнаў злотых і ён меншы на 1 більён ад планаванага Ваяводскай управай бюджэта. Улады ваяводства хадайнічаюць цяпер у Міністэрстве фінансаў за дадатковым 951 млрд. зл. Зараз не хапае грошай на ахову здароўя, грамадскую апеку, мадэрнізацыю дарог, заканчэнне пабудовы бальніцы ў Гайнаўцы і рамонт аднаго з беластоцкіх шпіталяў.

**Віцэ-прэм'ер і міністр юстыцыі Владзімеж Цімашэвіч** пабываў з візітам у Ваяводскай пракуратуры ў Беластоку. У рамках паправы жыллёвых умоў беластоцкіх судоў і пракуратуры плануецца стварыць цэнтр правасуддзя ў недакончаным будынку гасцініцы фірмы „Орбіс".

**39 палякаў з Казахстана** прыедуць на трохмесячную пабыўку ў беластоцкіх сялян, у якіх будуць яны працаваць за дробную плату, харчаванне і кватэру. На думку старшыні Саюза палякаў у Казахстане, перасяліцца ў Польшчу хацела б 50 тысяч палякаў.

**З 1 верасня на 20 працэнтаў даражэюць аўтобусныя і чыгуначныя білеты.** Цяперашні рост цэн на камунікацыйныя паслугі ПКС і ПКП — гэта ўжо другое і апошняе ў гэтым годзе планаванае павышэнне.

**Паміж Беластокам і Варшавай** курсіруюць камфартабельныя аўтобусы фірмы „Польскі экспрэс". Білет у Варшаву каштуе 100 тысяч злотых. Аўтобусы маркі „Вольва" — аснашчаны туалетамі, кандыцыянерамі і выгаднымі мяккімі крэсламі, а пасажыраў у дарозе дагледаюць гастэсы.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Міра Лукша пра лёс чалавека, які меў свой дом, але не меў дому.
- Мікалай Панфілюк пра паслядоўнасці ліпеньскай спякоты.
- Янка Целушэцкі пра гісторыю Гарадзенскага княства.



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Абмеркаванне ходу рэформаў

Па запрашэнню прэзідэнта Беларусь наведаў дырэктар-распарадчык Міжнароднага валютнага фонду Мішэль Камдэсю з мэтай абмеркаваць на вышэйшым узроўні ход эканамічных рэформаў і пытанні эканамічнай палітыкі, прапанаванай у праграмнай заяве прэзідэнта. Госць правёў размовы з прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром, старшынёю Вярхоўнага Савета Мечыславам Грыбам і прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам.

### Візіт у Маскву

Больш за гадзіну працягвалася ў Крамлі сустрэча прэзідэнтаў Расеі — Барыса Ельцына і Беларусі — Аляксандра Лукашэнкі. Прэзідэнт Расеі адзначыў канструктыўны характар сустрэчы і паведаміў, што дасягнута дамоўленасць вырашыць шэраг праблем у адносінах паміж дзвюма дзяржавамі. Поўнае ўзаемаразуменне, якое дасягнута на сустрэчы, адзначыў Аляксандр Лукашэнка, які паведаміў, што паміж ім і прэзідэнтам Расеі ўстанавіліся нармальныя чалавечыя адносіны. У ходзе сустрэчы былі акрэслены трынаццаць міждзяржаўных праблем у сферы эканомікі, палітыкі і ў іншых галінах. Лукашэнка паведаміў таксама, што Ельцын прыняў запрашэнне ў бліжэйшы час наведаць Менск з афіцыйным візітам, у ходзе якога ён гатоў падпісаць дагавор аб дружбе паміж Расеяй і Беларуссю, а таксама пакет з прыкладна дзесяці міжурадавых пагадненняў. Кранаючы пытанне аб аб'яднанні грашовых сістэм Расеі і Беларусі, Аляксандр Лукашэнка пацвердзіў сваю прыхільнасць да гэтай ідэі.

### Карэктывы ў заканадаўства

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка мае намер звярнуцца ў Вярхоўны Савет з просьбай аб правядзенні надзвычайнай сесіі. Ён плануе вынесці на яе шэраг прапаноў па змяненню дзеючага заканадаўства ў галіне мясцовага самакіравання, кіравання дзяржаўнымі прадпрыемствамі і дзяржаўнай уласнасцю. На думку прэзідэнта, такія змяненні дазволяць яму прыняць шэраг надзвычайных мер, накіраваных на пераадоленне эканамічнага крызісу.

### Сустрэча з дыпламатычным корпусам

У Міністэрстве замежных спраў адбылася сустрэча кіраўніка знешнепалітычнага ведамства рэспублікі Уладзіміра Сянько з прадстаўнікамі дыпламатычнага корпуса. У сваім выступленні новы міністр вызначыў накірункі дзейнасці міністэрства. У прыватнасці, адным з асноўных, на думку У. Сянько, з'яўляецца стварэнне спрыяльных знешніх умоў для развіцця Беларусі.

### Растуць цэны мяса

Услед за павышэннем закупачных цэн на некаторую сельскагаспадарчую прадукцыю наступіла чарга і рознічных. У чарговы раз, пакуль на 86% падаражала свініна, больш чым на палову ялавічына і на 65% каўбасныя вырабы.

### Хлебны бум

Пажылыя палачане ўспомнілі першыя пасляваенныя гады. Хлеб тут зноў па картках. Выканаўчы камітэт гарадскога савета быў вымушаны пайсці на гэту экстраардынарную меру з-за недаходу мукі. Нормы водпуску зусім нармальны — па буханцы на чалавека, прыезджым — па паўбуханкі. У Баранавічах картак яшчэ няма, але жыхары гэтага горада з самай раніцы займаюць чэргі ля хлебных і малочных магазінаў. Многія пенсіянеры не вытрымліваюць шматгадзінная пакуты на сонцапёку і тады трэба выклікаць хуткую дапамогу. Тым не менш на хлебазаводзе сцвярджаюць, што выпечка хлеба не паменшылася, а наадварот — узрасла. Калі месяц таму ў дзень раскуплівалася 58 тон хлеба, то цяпер — 70. А вось у суседніх Ляхавічах мясцовыя ўлады з рабілі інакш. Хлеб тут прадаюць па картачках — 1—2 буханкі на чалавека.

### Чаканы дождж і нечаканыя здарэнні

Пасля доўгай устойлівай засухі на Гомельшчыне ў пачатку жніўня нарэшце прайшлі дажджы. Больш за ўсіх пашанцавала абласному цэнтру, дзе выпала адразу трацiна месячнай нормы ападкаў. Праўда, не абышлося і без здарэнняў. У Савецкім раёне Гомеля перад дажджом наляцеў шквальны віхор, які перакуліў гандлёвыя палаткі, вывернуў дрэвы з карэннямі, парваў некаторыя тралейбусныя лініі і пабіў зашклёныя балконы ў дамах.

### Тэлефануюць і не плацяць

Сапраўдным бедствам для сувязістаў стала несвоечасовая аплата жыхарамі Менска міжгародніх і міжнародных тэлефонных размоў. Даўшы абанентам магчымасць прама з дому тэлефанаваць практычна ў любы пункт былога Саюза і нават за мяжу, работнікі сувязі набылі пастаянны галаўны боль. Сёння ў спісе даўжнікоў больш за 40 тысяч нядобрасумленных абанентаў, якіх доўг наблізіўся да 5 млрд. рублёў. Цяпер, калі абанент на працягу 15 дзён не аплаціць квітанцыю за міжгароднюю ці міжнародную размову, у яго, пасля аўтаматычнага напаміну, будуць адключаць тэлефонную сувязь.

### Па-расейску з перакладчыкам

Вярхоўны Савет суседняй Украіны большасцю галасоў прыняў рэгламент, які заканадаўча замацоўвае выкарыстанне ў парламенце ўкраінскай і рускай моў. Згодна з гэтым дакументам рабочай мовай з'яўляецца ўкраінская, але дэпутаты маюць права выступаць і на рускай мове, папярэдзіўшы аб гэтым старшынствуючага і сакратарыят ВС, які павінен забяспечыць пераклад выступленняў.

# НА ГАННУ Ў БЕЛЬСКУ...

... Фэст пачаўся а 18 гадзіне, як толькі скончылася вячэрня ў Міхайлаўскай царкве. Тым часам артысты, якія пераехалі з Гайнаўкі, сілкаваліся ў сталовай Пачатковай школы н-р 3 каўбаскамі і тушанай капустай. У парку збіраліся людзі, слухалі сцішанай музыкі з касет. Гарачыня паслабела. Была якраз адпаведная атмасфера для сямейнага адпачынку. Толькі дзеці пачыналі свой звычайны вэрхал.

Арганізатары былі задаволены. „Першы раз над беларускай імпрэзай у бельскім парку не вісела пагроза дажджу", — заўважыў Васіль Ляшчынскі. Людзей прыйшло вельмі многа. Прыехалі добрыя калектывы, з Тыневіч, Орлі, Ляўкова, Кобрына. Выступілі мясцовыя: „Васілёчкі" і „Маланка". І гурт, месцазнаходжанне якога не лёгка назваць — „Рэаль". Іграюць у ім тры браты Кавальскія з Крыўца (адзін цяпер жыве ў Гайнаўцы, адзін у Беластоку) і яшчэ адзін хлопец з Гайнаўкі. Калектыў, дзякуючы працавітасці і знаёмству з Генусем Шэметам (найстарэйшым з братоў, які стварыў віцебскую „Грамаду"), займае пустое гэтым летам месца па колішніх „Дубінах" і — пазней — „Грамадзе".

Канцэрт працягваўся пакуль добра не змеркла. Давялося над амфітэатрам уключыць асвятленне. Людзі ўсё не разыходзіліся. Багата таго вечара пасыпалася воплескаў у бок сцэны.

Падчас фэсту свае кніжкі падпісвалі „белавежцы": Віктар Швед, Мікола Гайдук і Янка Целушэцкі. І хаця ў наш час кніжка — яшчэ беларуская — не карыстаецца вялікай папулярнасцю, то Віктар Швед прадаў усе да аднаго паасобнікі сваёй „Вясёлкі".

ак

## БЕЛЬСКІЯ ІКОНЫ

Пры Бельскай царкве св. Міхаіла дзейнічае з 1983 г. школа іканапісу, якую вядзе а. Лявонцій Тафілюк. Айцец Лявонцій арганізаваў іканаграфічныя лагеры для моладзі, у якіх удзельнічала больш за 100 дзяцей. Вялі гэтыя лагеры спецыялісты з Фінляндыі і Расеі. У маі 1991 г. школа атрымала ранг царкоўнага вучылішча. Цяпер у ёй пісанню ікон вучыцца 21 вучань. Працы найлепшых маладых мастакоў паказваюцца цяпер на выстаўцы ў музеі ў Бельскай ратушы. Выстаўка карыстаецца вялікім зацікаўленнем: ад 5 чэрвеня да паловы ліпеня наведала яе ўжо 2800 гледачоў, калі праз цэлы мінулы год у музеі пабывала толькі 5500 наведвальнікаў.

АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК




**Да артыкула В. Лубы „Мілейчыцкая схватка" („Ніва" н-р 31 ад 31 ліпеня 1994г.).**

W nawiązaniu do artykułu „Milejczyckie starcia" Komisja Zakładowa NSZZ „S" Pracowników Oświaty i Wychowania w Milejczycach uprzejmie prosi o zamieszczenie na łamach Waszego Tygodnika następującego sprostowania: „Pani mgr Maria Cieślik — Przewodnicząca Rady Gminy nie jest członkiem naszego Związku i nie reprezentuje strony „solidarnościowej".

Z treścią artykułu zasadniczo zgadzamy się, za jednym małym wyjątkiem. To nie grupa radnych popierających Pana Sołyszkę zrywa sesje, tylko grupa „starego" wójta Pana Mikołaja Bortniczuka, który też wraz ze swoimi doradcami wymyślił ten sposób dalszego utrzymywania się przy władzy i jak na razie okazuje się on skuteczny. Pan Sołyszko tylko do nich dołączył się, ponieważ reprezentuje swój interes.

Z poważaniem:

Przewodnicząca
KZ POiW NSZZ „Solidarność"
**Grażyna Jaszczuk**

## У БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ У ГАЙНАЎЦЫ

У спякотны дзень, 26 ліпеня, выбраўся я з інж. Барыславам Рудкоўскім у Гайнаўку, у Беларускі музей. Калі зайшлі мы на музейны пляц, нас прывітаў Міхась Голуб і павёў у бюро да старшыні Грамадскага камітэта пабудовы Музея Канстанціна Майсені. Пасля гутаркі і чаю старшыня паказаў нам Музей. Відаць адразу, што грошы, якія беларусы перадаюць на пабудову свайго музея, не марнуюцца. Будынак ужо стаіць і частка памяшканняў ужо абліцавана, напрыклад, калідор абложаны мармурам. У будынку плануецца размясціць кіназалу, сталовую, кавярню, гасцінныя пакоі, майстэрню, экспазіцыйныя і іншыя залы. У адной з іх, дзе цяпер знаходзяцца графікі Яўгена Куліка з Менска, будзе зала падрыхтоўкі экспанатаў — „інсекторый", дзе будуць выганяць „рабакоў", побач будзе рэстаўратарская майстэрня. Юльян Казберук паказаў нам хроніку Музея, у якую і мы ўпісаліся. Я здаў у Музей 20 экспанатаў, каб пасля наведвальнікі маглі пабачыць, чым карысталіся нашы дзяды, калі не было яшчэ трактароў. Музей ужо прыгожа выглядае, а выглядаць будзе яшчэ прыгажэй, калі будова завершыцца. Дзверы ў музей прыгожыя, дубовыя, а яшчэ 60 кубічных метраў дубіны чакае на выкарыстанне. Я ўжо цяпер рэкамендую ўсім наведваць Музей, а сп. Канстанціну Майсені, які так ахвярна і актыўна вядзе пабудову, жадаю моцнага здароўя!

АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК

# АДКУЛЬ НАЗВА ВЁСКІ КЛЕНІКІ?

Вёска Кленікі размяшчаецца на старажытным шляху з Нарвы ў Бельск-Падляшскі. Абшар сённяшніх Кленік і аколіц, яшчэ не абжыты, знаходзіўся калісьці ў пушчы. Паводле легенды, у XIII стагоддзі затрымалася тут група манахаў, якія ўцякалі перад нашэсцем татараў пасля спусташэння захопнікамі Кіева і Пячэрскага манастыра пад Кіевам. На невялікім узгорку, які знаходзіцца непадалёк сягоняшняй царквы, манахі пабудавалі для сябе келлі. Мабыць, ад слова *келля* ўзнікла назва *Келейнікі*, змененая з часам на *Кленікі*.

У старадаўніх рукапісных дакументах можна сустрэць наступныя назвы гэтай вёскі: *Клейнікі, Кленікі, Кленнікі* і другую назву: *Зыгмунтова* (паявілася яна ў пісьмовых крыніцах ад 1560, 1576, 1602 і 1661—1664 гадоў). Замена старых назваў населеных пунктаў другімі назвамі, новымі, на тэрыторыі ўсходняй часткі Беластоцкага ваяводства — гэта з'ява не новая.

*Клейнікі* — радавая назва ад асабовай *Клейнік*. Паводле рукапісаў ад 1746 года, жыў тут Трафім Клейнік. Адкуль магло ўзяць свой пачатак прозвішча Клейнік? Мабыць, ад старабеларускага слова *клейно*, (старапольскае *клеймо*), якое абазначала апазнавальны бортны пчалярны ці пасечны знак на дрэвах з борцю. Даўняя назва Зыгмунтова была назвай мемарыяльнай у гонар караля Зыгмунта Аўгуста (1548—1572). Ён надзяліў Кленіцкую царкву, між іншым, дзвюма валокамі зямлі 16 сакавіка 1568 года.

ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ

# Успамін аб бортніцтве

Хобі Ежы Карнева з Беластока, па прафесіі інжынера механіка (але ён у сваёй спецыяльнасці ўжо здаўна не працуе!), з'яўляецца мастацтва. Ён у свабодны час ахвотна бярэ ў руку пэндзаль і малюе карціны. А таму, што іншым ягоным вялікім захапленнем з'яўляецца бортніцтва, тады і шмат палотнаў прысвячае мастак-любіцель гэтай тэме.

У жніўні г.г. у памяшканні Прыродазнаўчага музея БНП у Белавежы была наладжана выстаўка пра бортніцтва з 23 алейных палотнаў. Ежы Карнева паказаў на іх штодзённую працу бортніка, бортніцкія прылады, „памочніка" даўняга пчаляра — мядзьведзя. На некалькіх палотнах бачым і славутага Сцяпана Паленіка з Гайнаўкі, які з сённяшняга пчаляраператвараецца на карцінах у бортніка. Зрэшты, Е. Карнева супрацоўнічаў з С. Паленікам пры аднаўленні прыладаў і ўстанаўленню бортніцкіх звычаяў. Здымаў ён нават аб гэтым фільм у тэхніцы відэазапісу. А зараз мастак рыхтуе альбом аб бортніцтве. Думае таксама аб стварэнні новага цыкла палотнаў на тую ж тэму.

Выстаўка ў Белавежы карысталася вялікім поспехам сярод наведвальнікаў. Таксама і ў замежнікаў, з думкай аб якіх нават надпісы на карцінах былі змешчаны на англійскай мове. Госці музея маглі атрымаць лістоўку аб выстаўцы.

ПЁТР БАЙКО

## ШТО З ЧАЛАВЕКАМ?

Нядаўна я ехала аўтобусам у Беласток. Пасажыры расказвалі, што надоечы ў Семяноўскім вадасховішчы ўтапіўся нейкі рэдактар, і не сам ён быў на лодцы, а з калегамі. Калегі быццам сказалі, каб не плыў у адно месца, а ён іх не слухаў, як спецыяльна, і ўтапіўся. Я чула раней, што нейкі вядомы журналіст недзе прапаў, знік людзям з вачэй па нейкіх прычынах, і падумала, што, можа, гэта ён. Вось сёння, у такую жаркую ноч, я не магу спаць, і ўсё думаю пра таго чалавека. Чужыя людзі пераймаюцца яго справамі. Можа, ён сапраўды проста ўтапіўся, уцёк ад праблемаў, ад сумлення. А быў жа чалавек так папраўдзе някепскі, бо ў каго ж зусім паганая душа? Можа, і таму ўтапіўся, што душа ў яго ўсё ж засталася добрая, хаця брыды каму нарабіў?.. Калі ўжо не мог вытрываць жыцця, то ці не мог спрабаваць прабачыць яму і людзям? І іншыя ж маглі яму прабачыць, даравань правіны. Былі ж, пэўна, у чалавека маці, жонка, дзеці?.. Мы тады ехалі ў аўтобусе, практычна пра гэтага чужога нам чалавека нічога не ведалі, а турбаваліся, а што думаць пра яго блізкіх! Калі чалавек яшчэ жывы, усё ў жыцці змяніць можна!

ІДА

# Даўным-даўно ў Мельніку

☛ *Працяг са стар. 1*

палоннікаў. Зараз ад замка-крэпасці засталіся толькі мураваныя апоры на адхонах Замкавай гары.

З „Рэестру", складзенага ў 1545 годзе, даведваемся, што пераважная колькасць мельніцкіх мяшчан — гэта беларусы, затым палякі. Былі таксама мяшчане літоўскага, яцвяжскага і прускага паходжання. Горад развіваецца і прыцягвае да сябе ўсё большую колькасць прадстаўнікоў гандлю і рамеснага люду. У „Рэестры", складзеным Іванам Фёдаравічам Сапегам, каралеўскім пісарам у 1560 годзе, бачым рост колькасці мяшчан з беларускімі прозвішчамі, прыбывае таксама людзей з Польшчы і з іншых краін. У 1580 годзе ў Мельніку было 252 дамы, а ў 1616 годзе — яшчэ два млыны ды валюш. Але ў 1655 годзе горад быў датла знішчаны шведскім „патопам" і пасля гэтага ўжо не здолеў падняцца на ногі.

Калісьці на ўскраіне Мельніцкай пушчы, а цяпер тут жа за Мельнікам, сярод пагоркаў марэннай грады, што пакінуў ледавік, узвышаецца славутая гара Ушэсця (204 метры над узроўнем мора). Яна — неад'емная частка гісторыі старажытнай мясціны. Гара Ушэсця адзначаецца не толькі тым, што з яе вяршыні прасціраецца чароўны краявід на даліну Буга на некалькі дзесяткаў кіламетраў на ўсход, поўдзень і захад, але таксама і тым, што яе адхоны вельмі крутыя, парослыя лесам ды цеплалюбівымі былінамі падобнымі ды тых, што растуць на пабярэжжах Чорнага мора. Цяпер гара з'яўляецца запаведнікам прыроды.

Яшчэ далёкія нашыя продкі адкрылі тут радовішчы крэйды. Першабытнаму чалавеку была патрэбна не толькі сама крэйда, але перш за ўсё — крэмені, што ў ёй сустракаюцца, з якіх ён рабіў свае прымітыўныя вастры да стрэлаў, нажы ды скрабачкі. Да вайны гэтую крэйду дабывалі саматужным спосабам. Цяпер на выручку прыйшла тэхніка. Апрача кар'ера ёсць прадпрыемства па апрацоўцы крэйды. Гэтая сыравіна патрэбная ў многіх галінах прамысловасці.

У 1799 годзе Мельнік меў 141 дом і налічваў 822 жыхары. У 1831 годзе тут шалела эпідэмія халеры, ад якой памерла многа людзей. У 1921 годзе яшчэ як горад налічваў Мельнік 184 дамы і 1 091 жахара, а ў 1931 годзе — 1 389 жыхароў. У 1934 годзе ён страціў гарадскія правы. У той час мясцовасць мела характар вялікага курортнага асяродка. У апошнюю вайну ўцалела ўсяго некалькі будынкаў. У Мельніцкай акрузе былі спацыфікаваны вёскі Сутна (у 1941 годзе), Слохі-Аннапольскія, Клекатова. І цяпер на правым беразе Буга часта сустракаюцца савецкія бункеры.

З помнікаў старадаўнасці захаваліся, між іншым, царква Нараджэння Божай Маці (Прачыстай) з 1825 года ды могільнікавая царква Божай Маці (Пакровы) з 1777 года.

У 1976 годзе Мельнік налічваў каля 1000 жыхароў. У 1976—1978 гадах тут здалі ў карыстанне прыстань і ангар з байдаркамі ды пункт пракату турысцкіх прыладаў, а таксама танцавальную пляцоўку у маляўнічай Тапаліне ля самага берага Буга. Былі вызначаны надбужанскія турыстычныя шляхі для пешых вандровак з Драгічына ў Мельнік уздоўж ракі Буг. Вызначаны таксама месцы для бяспечнага купання.

Самым каштоўным багаццем Мельніка з'яўляецца натуральная прыгажосць яго краявідаў. Тут адкрылі мінеральныя воды, якія маюць лячэбныя якасці. Цэлае надбужанскае ўзбярэжжа з часам магло б ператварыцца ў турыстычную жамчужыну.

ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ

## РАЗВІТАННЕ З МІФАМ АБ ТАЛЕРАНТНАСЦІ БЕЛАРУСАЎ

*(працяг; пачатак у 30 н-ры)*

**6. Талерантнасць у нашыя часы**

На заканчэнне зазірнем і ў нашую гістарычную эпоху, у канец XX стагоддзя. Можа славутая талерантнасць стала рысай беларусаў зусім нядаўна?

Сапраўды, сёння на нашай тэрыторыі знешне не відаць ніякіх нацыянальных канфліктаў, як, напрыклад, на Каўказе ці дзе-небудзь у Сербіі. Усё ціха, усё „прыстойненько". Усе гавораць па-расейску (за выключэннем асобных мясцін, дзе дамінуе польская). Усе галасуюць — узгадаем рэферэндум 1990 года — за Саюз ССР, ці, як вынік палітыкі кабінета сп. Кебіча за СНД і ўваходжанне „в единую рублёвую зону", усё больш гучыць галасоў за яднанне з Расеяй, маўляў, „мы не проживём без России". А, між іншым, тая ж Расея з намі жыць сумесна не вельмі і імкнецца, пра што сведчаць бясконцыя непаразуменні пры аб'яднанні нашых грашовых сістэм ці нахабныя паводзіны расейскага ўрада пры штучным утварэнні нафтавай праблемы, што адбываліся зусім нядаўна. У той жа час амаль усе былыя рэспублікі СССР ідуць сваімі шляхамі і робяць сваю будучыню не зважаючы на „старэйшага брата".

Дык, што ж гэта за народ — беларусы? Чаму іх урад так імкнецца пазбавіцца дзяржаўнай незалежнасці? Ды не толькі ўрад, прарасейскія настроі ёсць і ў нашых камуністаў (у адрозненне, скажам, ад грузінскіх) і, нават, у большай частцы насельніцтва.

Можа такое становішча і завецца беларускай талерантнасцю? Дык жа не! Ніякая гэта не цярпімасць беларускай нацыі да другіх нацый. Гэта завецца нацыянальным нігілізмам, пагардай да сваёй нацыі, мовы і гісторыі. Вось такія рысы сапраўды адлюстроўваюць сутнасць сучаснага беларускага грамадзяніна. Пад прыкрыццём выдуманай талерантнасці хаваецца нікчэмнасць і душэўная пустэча, жабрацкая псіхалогія і палітычны сервілізм. У рэшце рэшт, беларуская нацыя ў большасці сваіх носьбітаў, па-сутнасці, стала няпоўнавартаснай. Вядома, гэта вынік больш як 70-гадовага панавання камуністычнай ідэалогіі, у выніку чаго з беларусаў выхаваліся рабы, манкурты, і якім бы ў насмешку прывесілі ярлык „талерантнага народа".

Гаварыць жа аб талерантнасці выпадае, перш за ўсё, толькі з псіхалагічнага боку ці этычнага. Хутчэй за ўсё — яна характарыстыка пэўнага чалавека, а ў больш агульным сэнсе характарыстыка ступені развіцця грамадства. Чым больш высокі ўзровень цывілізаванасці грамадства, тым больш уласцівая яму цярпімасць да іншадумцаў, імкненне да еднасці і любові сярод людзей. А такія катэгорыі характарызуюць большасць развітых краін Еўропы і Амерыкі. Менш за ўсе традыцыі талерантнасці ўласцівыя посткамуністычным краінам, у тым ліку і Беларусі.

Закончу на больш аптымістычнай ноце. Калі мы ўсё ж гаворым аб талерантнасці ў Беларусі, то гэта значыць, што традыцыі Вялікага княства Літоўскага, як еўрапейскай дзяржавы, жывуць і нам застаецца, як гэта было раней у мінулым, увайсці ў Еўропу. Яна нас прыме.

**АНАТОЛЬ АСТАПЕНКА,**
**Менск**



# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**1990 - 05 - 30**

Ад 23-га да 28-га — у Менску, запрошаны на Свята славянскай пісьменнасці і культуры (з Барскім і Петручуком). Перш за ўсё, ясна, дзеля перамоваў я з Пазьняком і іншымі з БНФ... Не вельмі яны мелі час для мяне, але, усё-такі, пагаварылі мы даволі грунтоўна ўжо ў першы дзень (увечары, у т. зв. чырвоным касцёле, пасля іхнай дэпутацкай нарады). Галоўнае — эканамічныя сувязі (гандаль) і акцыя „Дзеці Чарнобыля". Рыхтуюць дэкларацыю незалежнасці Беларусі. Польшчу лічаць больш небяспечнай, чымсьці Расію (цывілізацыйна слабейшая). Перспектывы Беларусі — у кааліцыі з Украінай, Літвою, Латвіяй, Эстоніяй. Беласточчыну трэба вязаць з Гарадзеншчынай; лёс польскіх беларусаў залежыць ад лёсу савецкіх (сінхрон).

Выд. „Мастацкая літаратура", Андраюк: мая кніжка запланавана на '91. Пасля Гайдука, Петручука...

У чацвер, 24-га, востра выступіў на Радзе Таварыства беларускай мовы (надакучыла мне гуляць у дыпламата). Добра гаварылі Каўко, Белакоз, Шматаў; Гілевіч нудзіць і наракае. Барскі ж выхоплівае слабыя месцы ў маім маналогу. Трохі напішуць пра гэта ў „Нашым слове"?

Увечары — з Трыгубовіч — на пасяджэнні Менскай Рады БНФ (быў і Пазьняк). Расказаў ім, м. ін. і пра БДА. Запушчаная мастацкая майстэрня ў былой бажніцы, недзе блізка пр. Машэрава...

Шэрасць і беднасць, неахайнасць.

Пятніца, 25-га. Бібліятэка ім. Купалы. Вернісаж трыпціха Марачкіна (Скарына). Са Слаўкам і яго сябрам, Скутніцкім; адшукалі мяне, будучы праездам з Вільні. Меў я добрае выступленне, а для публікі проста сенсацыйнае (з Беластока ж!). Нехта плакаў, і я мала не з ім... Хораша пазнаёміўся з Разанавым, з Бембелем. Вечар — у майстэрні Марачкіна (— Маці Божая Ахвяраў Чарнобыля). Ад гэтага дня мой сын у беларускім руху!

Субота, 26-га. Працяг маіх уцёкаў ад афіцыйных імпрэзаў. З Галькевічам. Прагноз палітычнага становішча. Трохі так, як учора ў Марачкіна, (— Беларусь асуджана на беларускасць самой логікай падзей!).

Нядзеля, 27-га. Вязынка. Славянскі фэст. Чытаў „Малітву да беларускага слова". Абступілі БНФаўцы (прадавалі выданні). Рагойшы, Каўка, Каханоўскі, Ермаловіч, Мірачыцкі, Чамярыцкі; Белаказовіч і Кандрацюк з Варшавы (чарка на траве). Хаос размоваў. Потым — пару слоў з Зуёнкам, Гілевічам, Законнікавым, Паўлавым... У галопе арганізацыйнага спеху.

На банкеце ў „Юбілейнай" (глыток шампанскага з мітрапалітам; мой — за Беларускую праваслаўную царкву). Канвеер размовак — з Бэрдам, з Белаказовічам, з Фядосікам, з Рагойшамі, з Куляшовай, з Мальдзісам... Прычапіўся Емяльянаў; арганізоўвае Беларускую нацыянал-дэмакратычную партыю. І зпрасв жа — Бутэвіч з ЦК КПБ. Гэты не пакінуў мяне амаль да канца, абмацваў ідэалагічна. — Камунізм — так, скрыўленні яго — не (ён яшчэ на этапе польскага '80).

Не відаць — Быкава, Брыля, Панчанкі... Што гэта?

Пазваніў Лілі: у Юркі Семяняккі — рак жывата!

Панядзелак, 28-га. Перамовы ў „Радзіме" (— з Барскім, з Петручуком). Я: — Эканамічная зона Баброўнікі; — „Дзеці Чарнобыля"; — Консульства БССР у Беластоку; — Сустрэча беларусаў свету ў Белавежы; — Беларускае TV з радыусам на Беласточчыну; — Помач для нас кніжкамі; — Экспазіцыя работ Лёніка.

Падвечар — інтэрв'ю для „Голасу Радзімы" (Чаркасава).

У „Юбілейнай" з'явіўся Дынглі, толькі што з Лондана. Недзе ёсць і Сяднёў, ужо ад паўмесяца.

Каля 23-ай — у Беласток. На вакзал прыйшоў — да мяне Дынглі! (Барскі раптам застаўся яшчэ на два дні). Быў Яканюк, намеснік дырэктара TV.

— Саветы заўсёды цікавяцца намі тады, калі Польшча выслізгваецца ім з рук.

*(працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

*— Андраюк — Серафім Андраюк, тадышні галоўны рэдактар і дырэктар „Мастацкай літаратуры" у Мінску, родам з Грэдалёў, што каля Бельска;*

*— Каўка, Белакоз, Шматаў — дзеячы беларускага адраджэння, па прафесіі: дыпламат, настаўнік, інжынер;*

*— „Наша слова" — новы беларускі часопіс, орган Таварыства беларускай мовы ў Мінску;*

*— Трыгубовіч — Валянціна Трыгубовіч, публіцыст і мастацтвазнавец, загадчык сектара замежных справаў Беларускага народнага фронту „Адраджэньне";*

*— Марачкіна — Аляксей Марачкін, выдатны мастак, адзін з герольдаў беларускага адраджэння;*

*— Слаўкам — Слаўка Яновіч, сын аўтара;*

*— Алег Бембель, Алесь Разанаў — выдатныя паэты сярэдняга пакалення, наватары вершаскладання;*

*— Томас Бэрд — амерыканскі беларусіст;*

*— Джым Дынглі — ангельскі беларусіст;*

*— Лілі — Ліля, жонка нябожчыка Юркі Семяняккі, вядомага кампазітара Беларусі.*

## ЧЫЧЫЯЛІНА МОЖА СУДЗІЦЬ ПАЦА!

Уладзімір Пац паказаў сябе як добры аналітык беларускай палітычнай сцэны. Яго ныя карэспандэнцыі з Менска ў пятай праграме Польскага радыё, раней у „Gazecie Wyborczej" ды апошнім часам у „Życiu Warszawy" цікавыя, змястоўныя і кампетэнтныя. Што Пац дасканала арыентуецца ў закуліссях улады ў Менску, мелі нагоду пераканацца і чытачы „Нівы".

Але адыходы ад добра вядомай, распрацаванай тэмы бываюць рызыкоўныя. Як у артыкуле „Беларусь выбрала прэзідэнта" („Ніва" ад 7.08.94), які канчаецца можа і эфектным, але непрадузятым сцвярджэннем: „...італьянцы выбралі ў парламент прастытутку Чычыяліну".

Выбар парназоркі ў італьянскі парламент 6 гадоў таму стаў сапраўднай сенсацыяй, якую падхапіла прэса бадай ва ўсім свеце. Але на гэтым сенсацыя і скончылася. Дэпутат Ілона Шталер — такое сапраўднае прозвішча Чычыяліны, па паходжанні венгеркі — вяла сябе прыстойна, на пасяджэнні прыходзіла ў спадніцах за калена і ў жакетах, якія дакладна хавалі ўсе яе прывабнасці. Штосьці там часамі гаварыла пра перавагу кахання над вайной і нават заснавала партыю, сябры якой называлі сябе рэспубліканцамі.

У 1988 годзе ў цэнтры Рыма, ля фантана Дзі Трэві, бачыў я мітынг гэтых рэспубліканцаў. Раздавалі яны прахожым невялічкія лісткі (мода раздаваць прэзерватывы нарадзілася ў іншым месцы і хіба крыху пазней) з праграмай партыі на розных мовах. У праграме, наколькі памятаю, не было больш за дзесятак пунктаў. Амаль усе гаварылі пра тое, што рэспубліканцы Чычыяліны з'яўляюцца ў Італіі адзінай партыяй, якая, следам Махатмы Гандзі, поўнасцю адкідае насілле. Лозунг Чычыяліны і яе партыі быў такі: „Замест ваяваць давайце будзем кахацца!"

Чычыяліна ў палітыцы была, аднак, у адрозненні ад парна-бізнесу, з'явай эпізадычнай. Нікому нічога дрэннага не зрабіла. Сродкі масавай інфармацыі прыпомнілі пра яе, калі выходзіла замуж за нейкага экстравагантнага амерыканскага мастака. Сужонства, зрэшты, пасля некалькіх гадоў разляцелася, але ў той час Чычыяліна стала шчаслівай маці. Вось такая сабе гісторыя.

Для некаторых людзей розніцы паміж акцёркай парнафільмаў і прастытуткай няма. Але юрысты могуць яе даказаць кожнаму. Цаной такой навукі могуць быць мільёны, у любой валюце. Што за слова прастытутка можна пакрыўдзіцца, няхай доказам будзе мінулагодні судовы працэс Анастазіі П. супраць тадышняга маршалка Сейма Веслава Хшаноўскага.

На Валодзіна шчасце, адзіным вядомым мне месцам у Італіі, дзе чытаюць „Ніву", з'яўляецца Ватыканскае радыё. Я не думаю, каб працаўнікі гэтай дастойнай установы захацелі бараніць гонар Чычыяліны. Або хаця б падумалі паінфармаваць яе пра паклёп у нашым скромным тыднёвіку.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**




*БАРЫС РУСКО*

### Хвала

Хвала праменям, што зелень далі
лісцям
і чырвань кветкам,
вачам — блакіт.
Сонца, хвала табе за ласку, дорыш якой
зямлю.
Хвала табе, хвіліна, што ўзнікла ты і
знайшла ў сабе месца для зорак
і драбніц.
І табе, ціш, хвала, што цябе зглядзеў
Бог.

### Скажы, варожка

Не ведаю, дзе б'е гусцейшы гром,
дзе стогне жаласней віхура —
у небе ці ў маім сэрцы?
Не ведаю.
Скажы, варожка, хоць паўшэптам...
Ты ж прачытала столькі кніг
складаных чалавечых лёсаў...
Скажы.
Скажы, як пагасіць пякучы жар,
і як здабыць іскру надзеі,
світанак як сустрэць барвовы,
смяяцца як, гуляць і плакаць як?

### Зачацце

У папірусе Ціша доўгая,
як вечнасць, набрыньвае Мова.
Хвалі слоў б'юць у сваё берагі,
кроплі становяцца плынню,
плынь разбіваецца ў віры парываў...
Абруч лопае.
Поўніцца пенай форма Майстра.
На адталым полі пад скібай
даспявае зачацце.

*СЦЯПАН АБУХ*

# Сумленне Народу

Як тут жыць без пісання. Сумленне Народу ўсё жыццё пісаў. Было ў тым якоесьці прызванне. Найважнейшае аднак — услед за пісаннем ішоў талент і адчуванне грамадскай місіі. Сумленне Народу стварыў свой стыль. Часта паўтараў Маладому Непісьменнаму Пакаленню, што пісаць трэба мала, але густа. Тэкст датуль трэба ціснуць, — казаў ім, — пакуль не застанецца ў ім ні кропелькі вады. Слухалі гэтага тыя Маладыя Непісьменныя, раты разявіўшы. Праўда, Маладыя Непісьменныя трошку ўжо самі падвучыліся пісаць, але глядзелі ў Сумленне Народу ды слухалі яго, нібы Збаўцу Свайго Пакалення. Некаторыя з іх, бывала, між сабою казалі, што іхняе пакаленне само сябе праявіла, а Сумленне ўсяго прымазаўся да іх. Гаварылі так, як прынцып, пап'янаму. У рэдкія моманты поцверазі ніхто думак такіх не выносіў, а Сумленне Народу не пярэчыў, што ён і ёсць Збаўца Іхняга Непісьменнага Пакалення.

Стыль Сумлення Народу зразу быў адметным. Аддавалася ў ім перавага кароткай і, скажам адразу, з'едлівай форме. Вонкавым праявам, наяўнасцю гэтай адметнасці былі ўлюбёныя словы і выразы, якія з'яўляліся ў яго творах на працягу ўсёй творчасці. „Украпівелы плот", „запушчанае плебейства", „зацюканая мужыцкасць", „непісьменнае хам'ё", „пашукаць сабе фраера", „сучыцца на кароткіх ножках плебея", „пасучыцца ў свет за іншым хабалём", „два мяшкі бульбы ў ванне"... Знаўцы і аматары творчасці Сумлення на ляту пазнавалі тут руку майстра.

Як кожны пісьменнік, Сумленне Народу вёў сумленна дзённік, дзе пісаў сваю гісторыю ды гісторыю Збаўленага Непісьменнага Пакалення — Сумленне, цалкам слушна, не спадзяваўся, што Непісьменныя здолеюць пакінуць па сабе трывалы ў літаратуры след. Маладым спачатку была да спадобы гэтая ўважлівасць майстра да іх. Памалюсеньку, аднак, стала відавочным, што з іхнім майстрам дзеецца штосьці не так. Пайшло менавіта пра тыя дзённікі, якія рэгулярна публікаваліся ў „Гонях" — літаратурна-мастацкім часопісе Збаўленага Непісьменнага Пакалення, часопісе наскрозь артадаксальным. Нават Непісьменнаму Пакаленню стала ясным, што Сумленне Народу адвольна падбірае факты ды яшчэ больш адвольна інтэрпрэтуе іх. Нешта трэба было зрабіць — майстра іхні „фіксаваў". Найбольш геніяльнай развязкай, як мяркуюць цяпер даследчыкі жыцця і творчасці Сумлення Народу, была думка аднаго з Маладых Непісьменных, каб Сумленню паставіць пры жыцці помнік. Была яна адобрана рэштай Непісьменных, але, на жаль, да ажыццяўлення задумы не дайшло...

У першай палове дзевяностых з'явіліся такія творы Сумлення Народу, як: „Дурныя гульні Антона з катом і сабакаю", „Неразбярыха пра Алега" ды класічны ўжо твор „Сакрэтная схільнасць Колі да малпаў". Найбольш звонкім рэхам у грамадскасці прагучаў якраз гэты апошні твор. Настальгічная медытацыя пра пагрозу цывілізацыі схілу XX стагоддзя мяжуе ў ім з натуралісцкім апісаннем сцэн, якім крытыкі зразу закінулі былі парнаграфію, заафілію ды абразу маральнасці Маладога Непісьменнага Пакалення. Паколькі ў выпадку „Дурных гульняў Антона з катом і сабакаю" і „Неразбярыхі пра Алега" асацыяцыі з рэальнымі персанажамі былі даволі далёкімі, то ў „Сакрэтнай схільнасці Колі да малпаў" сумненняў ніякіх не было. Сумленне Народу лаяўся ў творы на Маладое Непісьменнае Пакаленне, якое, як лічаць сёння крытыкі, не апраўдала той ролі, якую Сумленне нарыхтаваў Непісьменным у сваім плане агульнага збаўлення.

Даследчыкі неахвотна згадваюць яшчэ адно здарэнне. Антон, Алег і Коля — Маладыя Непісьменныя, героі трох згаданых тут твораў, — папіўшы сабе добра, задумалі былі наведаць Сумленне Народу ў хаце ды зрабіць там рашучую над ім расправу. Але тут здарылася нешта цалкам незразумелае. Дзверы адчыніла ім нейкая невядомая асоба: „Чего вам здесь надо?"

Усякі след па Сумленні ў Вялікім Горадзе прастыў.




*ПЯТРО ЛАМАН*

* * *

У сонным бары  
Зязюля кувае.  
Жыццё дагарыць,  
Як дзень дагарае.  
Сатканая борам  
І нёманскай плынню  
Журлівая песня  
Як хваля нахлыне.  
Імгненне і вечнасць,  
Мой кут і бясконцасць  
Яднае з сабой  
Вечаровае сонца.  
І мудрасць, і яснасць  
У росным змярканні.  
І нікнуць турботы,  
Як перад сканаsucceeded.

*ПІМЕН ПАНЧАНКА*

**БЕЛАРУСКІЯ НАСТАЎНІЦЫ**

Што з вамі сталася,  
Што з вамі станецца?  
Можа, цяпер вы пакрыўджана  
плачаце,  
Беларускае мовы настаўніцы,  
Беларускай літаратуры выкладчыцы?

Вашай лагоднаю ласкаю атулены,  
Пра Беларусь мы чытаць былі рады.  
Мы вам верылі больш, чым матулям,  
Хоць і матулі казалі нам праўду.

Як вы спявалі „Ой рэчанька,  
рэчанька,,  
Ваш голас у сэрцах — сардэчны,  
не гучны...  
Гэта пазней нашу мову скалечылі,  
І пакаленні ад мовы адлучаны...

*ГАЛІНА РАШЧЫНСКАЯ*

**КОЛЕРЫ КАХАННЯ...**

Прывабіць чым пагляд Каханага  
гадала...  
Дарунак Ваш, мой сябар, у куфэрку  
адшукала —  
тых завушніц бурштын  
з мелодый жоўтых промняў...  
І дрогкі напамін, і...  
сцежка...  
да  
далоняў.

* * *

У ветру пазычаю зеляніны,  
Аромаў прываротных  
колер дзіўны.  
Напой збіраю з хмелю, дурнап'яну,  
Ды начакветам шчодра  
прыпраўляю...—  
зяленшчыцай была мая бабуля,  
рэцэпт для зелля мне  
яна шапнула...  
І назва ў адвару „Пой—прычарнік" —  
вачэй маіх усплеск  
чароўна-чорна-чорны.

* * *

Адзінота аметыставага вечара  
Вэлюмам ападвае на плечы мне,  
На павеках фіялетам адсвечвае  
Слёз крыштальных полыхі трапечыя,  
Ветру далоннямі непрывечныя  
Валасы мае пераразбэшчвае...  
Вы не бачыце, не чуеце —  
нястрэчаны (?)—  
Вечар ў Вас мяне ізноў  
пераасрэчвае...

* * *

Сёння мне сябе  
не сачыняць,  
колераў-аздобаў — не шукаць, —  
зора Вашага  
пяшчотаю—блакітам  
я асветлена, апета—апавіта.

* * *

Як небазор  
без зораў —  
проста... неба,  
і не лынаць без веі  
зімавеі..,  
так без кахання Вашага  
знямею..,  
астыну-знепрытомню—скамянею.

# ЛЕТАПІС БЕЛЬСКАГА ЛІЦЭЯ

☛ *Працяг са стар. 1*

паходзіў з беларускага сялянскага асяроддзя Віленшчыны, быў арганізатарам і правадыром Беларускай рабоча-сялянскай грамады. У пачатку II Рэчы Паспалітай быў паслом у Сейм і адначасова змагаром за справы беларускай меншасці ў Польшчы. Б. Тарашкевіч — аўтар першай граматыкі беларускай мовы, перакладчык „Пана Тадэуша" А. Міцкевіча на беларускую мову.

У жніўні 1971 года адыходзіць з пасады дырэктара і перасяляецца ў Беласток Мікола Гайдук, а дырэктарам стае выпускнік беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта магістр Аляксей Карпюк.

Сямідзесятыя гады прыносяць чарговыя дасягненні ў развіцці школы. Павялічваецца колькасць аддзелаў. Ад 1974 года, на працягу трох наступных гадоў ліцэй набірае чатыры аддзелы першых класаў. У школу прыходзіць больш здольная моладзь, а лік кандыдатаў перавышае колькасць месц.

Бацькоўскі камітэт, вядомы з актыўнасці і глыбокага зацікаўлення справамі школы, у 1973-74 гадах дапамагае грамадскім чынам дабудаваць 3 класныя кабінеты.

28 і 29 верасня 1974 года адбываецца ў школе I З'езд выпускнікоў. 30 гадоў з дня ўтварэння школы — 1070 выпускнікоў з поўным атэстатам сталасці. 1000-ы атэстат сталасці атрымлівае адна з найлепшых выпускніц Таіса Філіманюк.

Растуць дыдактычныя дасягненні. Ліцэй дабіваецца высокіх паказчыкаў працы: звыш 90% паказчык навучання, так званая „прамоцыя" — 98—99%. У вышэйшыя установы паступае 50% моладзі. Ліцэй дасягае сярэдні ўзровень у краіне.

У другой палове сямідзесятых гадоў вучні ліцэя пачынаюць дабівацца дасягненняў на прадметных алімпіядах. Заняткі ў прадметных гуртках, у якіх працуе звыш 70% моладзі, поўнае зразуменне і прыхільнасць настаўнікаў прыносяць першыя поспехі.

У 1976—80 гадах у акруговых спаборніцтвах прымалі ўдзел 154 вучняў, з якіх 17 сталі алімпійцамі цэнтральнага ўзроўню. Асаблівыя дасягненні школа заваявала ў алімпіядзе ведаў аб Польшчы і сучасным свеце. Школа двойчы заваявала першае месца як каманда, а таксама мела 2 лаўрэатаў: Андрэй Рубашэўскі (I м. — 1980 г.) і Міраслаў Дораш (III м. — 1980 г.). Рыхтавала іх мгр Таіса Бялецкая.

У канцы шасцідзесятых гадоў і на працягу сямідзесятых працаваць у школу прыходзяць чарговыя яе выпускнікі: Зінаіда Дземянюк, Вера Сідэвіч, Анна Ткачук, Анатоль Савіцкі і Клаўдзія Сліўка — як школьная сакратар-машыністка.

У верасні 1980 года адбываюцца ў школе важныя падзеі. 17 верасня Бацькоўскі камітэт уручае школе сцяг, а 20 і 21 верасня праходзіць II З'езд выпускнікоў, у час якога Ліцэй быў узнагароджаны ведамасным і рэгіянальным медалямі. 20 верасня віцэ-міністр асветы генерал З. Гушча ўзнагароджвае Ліцэй „Медалём Камісіі нацыянальнай адукацыі", а куратар асветы Э. Крынскі упрыгожвае сцяг школы ганаровай адзнакай „Заслужаны Беласточчыне".

Ад моманту падзелу на пачатковую школу і ліцэй, гэта значыць ад 1965 года, Пачатковая школа н-р 3, таксама з беларускай мовай навучання, разрастаецца. Ад 200 вучняў у 1966 годзе да 500 у 1980 і каля 1000 у 1989 годзе. Высокі ўзровень навучання ў гэтай школе, а таксама перамогі яе вучняў у прадметных конкурсах прыносяць Пачатковай школе н-р 3 славу і папулярнасць. Яна з'яўляецца таксама базай для ліцэя. Пераможцы прадметных конкурсаў з гэтай школы становяцца часта алімпійцамі ў ліцэі. Абедзве школы змяшчаюцца ў адным будынку, які пачынае быць цесным.

У навучальным годзе 1983/84 пачынаецца пабудова 9 класных аддзелаў на патрэбы Пачатковай школы н-р 3, а 1 верасня 1985 года здаецца ў карыстанне новы будынак. Умовы працы палепшыліся, але ці на доўга?

У пачатку дзевяностых гадоў у дзвюх школах вучыцца амаль 1,5 тысячы моладзі. Пачатковая школа працуе на дзве змены. 2,2 — так званы паказчык зменнасці — сведчыць аб тым, што гэта самыя дрэнныя ўмовы працы ў горадзе. Ізноў, дзякуючы ахвярнасці бацькоў і настаўнікаў абедзвюх школ, у 1986 годзе прымаецца рашэнне аб пабудове гімнастычнай залы.

Пачатковая школа н-р 3 і Агульнаадукацыйны ліцэй імя Б. Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім з'яўляюцца цэнтрам беларускасці так для грамадства, як і для наведваючых іх гасцей. Прыязджаючы ў Бельск, сюды накіроўваюцца журналісты. Дасягненнямі школы, а таксама яе спецыфікай цікавяцца рэдакцыі многіх цэнтральных і рэгіянальных газет і часопісаў. Найчасцей аб школе пішуць „Ніва", „Газета Всполчэсна" паведамляючы аб выніках алімпіяд і конкурсаў, адзначаючы юбілеі і перамогі Ліцэя. Прыкладам няхай будзе вельмі красамоўны факт. У абвешчаным у 1988 годзе рэдакцыяй „Газеты Всполчэснай" конкурсе „Школа мар" Ліцэй у ацэнцы выхаванкаў і бацькоў апынуўся сярод найлепшых. Аб школе пісалі „Матывы", „Трыбуна люду", „Штандар млодых", „На пшэлай", „Асвета і выхаванне", люблінская газета „Камэна", украінскае „Наше слово", „Кур'ер падляскі" і „Разам", якое ў 25 нумары за 1984 год напісала: „Ліцэй на правінцыі. Суровая дысцыпліна, вострыя патрабаванні, але і высокі ўзровень навучання, а ў рэзультаце — многія выпускнікі прыняты ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Можа і варта правесці чатыры гады ў такім „манастыры"?"

*(заканчэнне будзе)*

**Апрацавала**  
**Дырэктар ліцэя**  
**ЗІНАІДА НАВІЦКАЯ**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Дарагая „Зорка”!

Першыя тры тыдні канікул я правяла вельмі цікава і весела. З іншымі дзецьмі з Беласточчыны я была ў лагеры „Зубраня” над возерам Нарач.

Прывіталі нас там не толькі з адкрытымі рукамі, але і з такімі ж сэрцамі і душамі.

У „Зубраняці” чакала нас многа цікавага. Хадзілі мы ў кіно, гулялі ў розныя маладзёжныя ігры, плавалі на лодках і катамаранах па вельмі чыстай вадзе возера Нарач, плавалі ў басейне, хадзілі ў глыб лесу і спалі там у палатках. Былі таксама выбары міс „зубраняцкіх” дзяўчат. З нагоды 50 гадавінай вызвалення Беларусі ад фашыстаў уся моладзь ахвотна прыняла ўдзел у вечарыне і выступала з вершамі і песнямі.

Вельмі часта пасля заходу сонца мы раскладалі вогнішча і навокал сядала моладзь беларуская, руская, латышская, польская і эстонская. Спявалі беларускія песні, якія рэхам разносіліся па ўсім лесе.

Найбольшае ўражанне зрабіла на мне святкаванне Купалля. У гэтую ноч гарэла вельмі высокае і вялікае вогнішча, у якое кідалі саламяныя куклы. Усе танцавалі навокал гэтага кастра і спявалі песню „Купалінка”. Потым хлопцы скакалі цераз агонь, дзяўчаты сплялі вянкі і пускалі іх на ваду. Было некалькі шчаслівцаў, якім удалося злавіць гэтыя вяночкі! Надышла пара шукаць папараць-кветку. Пасля доўгіх пошукаў удалося аднаму з хлопцаў знайсці такую кветку шчасця, шкада толькі, што яна не была сапраўдная.

Усё тое, што мы перажылі і пабачылі, немагчыма апісаць і расказаць! Усё трэба проста самому пабачыць і перажыць.

Мне вельмі хочацца паехаць туды хоць бы яшчэ разок, але не ведаю, ці буду зноў мець магчымасць трапіць над Нарач на такі лагер.

Хачу праз пасрэдніцтва „Зоркі” падзякаваць арганізатарам нашага выезду, тым, хто там нас так сардэчна прыняў і нашым апекунам. Дзякуем вам з усяго сэрца!

**ДАРОТА ГРЫГАРУК,**
**Пачатковая школа ў Дубінах**



*Юля Навумчык з бельскай "тройкі" — І месца сярод малодшых салістаў на аглядзе беларускай песні.*
**Фота М. Ваўранюка**

Помнікі архітэктуры Беларусі

## КРЭЎСКІ ЗАМАК

Велічныя муры Крэўскага замка ўзвышаюцца пасярод былога мястэчка, а зараз вёскі Крэва Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці.

Калі ў Лідскім замку вежы не выходзілі за абрысы сцен, то галоўная вежа (Княжацкая) Крэўскага замка, збудаванага на мяжы XIII і XIV стагоддзяў, значна выходзіць за перыметр замкавых муроў. Яе памеры 18,6 х 17 метраў. Вежа мела не менш як тры паверхі, сутарэнне — турму і была прыстасавана пад жытло. Пакоі князя знаходзіліся на другім паверсе, дзе вокны большыя і шырэйшыя і аздоблены фрэскамі. Сутарэнні, відаць, мелі гатычныя скляпенні, як скляпенні вежаў Лідскага замка.

Сцены Крэўскага замка маюць розную даўжыню, а іх таўшчыня ў аснове каля 3 метраў. Крыху пазней, чым Княжацкую, у паўночна-ўсходнім куце замкавага двара ўзвялі яшчэ адну вежу (11 х 10,65 метраў), якая мела не менш чым 4 паверхі. Абедзве вежы і баявая галерэя былі пакрыты чырвонай паўцыркульнай дахоўкай.

У сярэдзіне XIX стагоддзя вакол замка яшчэ былі бачны рэшткі рова. Даследчыкі адзначалі, што яго шырыня была каля 50 сажняў і ён ніколі не быў глыбокі, бо запаўняўся вадою з запруды.

Крэўскі замак — сведка шматлікіх гістарычных падзей. Тут, у сутарэннях Княжацкай вежы, быў забіты вялікі князь літоўскі Кейстут, знаходзіўся ў палоне Вітаўт, у жніўні 1385 года ў замку была падпісана унія паміж Вялікім княствам Літоўскім і Польшчай. Зараз у замку вядуцца значныя археалагічныя даследаванні і распрацоўваецца праект яго кансервацыі.

**А. ТРУСАЎ**

# ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

### 11
### ЗДАРЭННЕ Ў ЗАВУЛКУ

Жылося, што казаць, нялёгка, затое кожны дзень абдорваў навіною. Раслі зрубы і новыя падмуркі. Везлі свежыя караваі з толькі-толькі пушчанага хлебазавода, падымаў над дзвярыма шыльду новы магазін, працiраў шкляныя вочы кіёск — усяму было рада сэрца. Апрача таго, мы ведалі, за нейкія паўгадзіны ходу ад цэнтра ўзнікла радзіма не бачаных дасюль асілкаў: трактарнага і аўтамабільнага,

Адно што настрой часам псавалі кепскія людзі, высеўкі нядаўняй акупацыі. Не-не дый пачуеш: там крадзеж, там рабунак, недастойныя чалавечай годнасці ўчынкі, інакш кажучы, злачынствы.

Раніцай, зусім не падобнай на снежаньскую — снег падаў і раставаў пад нагамі, — яшчэ на прыцемку я выбраўся прайсці, падыхаць паветрам. Ніяк не канчалася тэрміновая работа, трэба было прасвяжыць галаву.

Ставарышавацъ мне адразу падручыўся Дзік, ён яшчэ не дацягваў да года, але выглядаў на дарослага пса.

Я адамкнуў вароты і спыніўся, нічога не бачачы. Ліхтароў не было, вочы не прывыкшыя да перадзолкавай імжы, не свяцілі. Трымаючыся агароджы, намацаў нагамі тратуарчык і завярнуў за вугал. Дзік падбег да мяне, ўсутыч і мнагазначна цяўкнуў. Ён хацеў некуды адбегчыся і прасіў прабачэння: пахадзі, маўляў, трохі адзін, мне тут трэба зазірнуць у адзін адрас, з знаёмымі панюхацца.

Дзік падставіў галаву мне пад руку: гладзь і май пэўнасць, я цябе хутка даганю. Ї растаў у тумановай вільгаці.

У баку хлебазавода пасігналіла машына, няйначай, прасілася ў двор на загрузку. Значыць, хутка будзе выходзіць начная змена. І я пакіраваўся пад хлебазавод.

На скрыжаванні мяне схапілі ззаду за каўнер.

— Палітончык! — закамандаваў рыплівы голас. — Скідай і — носам да плота. Каб ні руху, ні гуку.

Тут не паспрачаешся! У яго ж, напэўна, ёсць зброя, дый напарнік, відаць, непадалёку. Але — паліто! Няхай старое, але перспектыў на новае не прадчуваецца.

Як не сваімі рукамі, павольна расшпіліў я гузікі. Думалася даволі рызыкоўна: пачну скідаць з рукавоў і накіну гэтаму д'яблу на галаву, ану і забрытаю.

Раптам мой каўнер адпусцілі, той самы голас, але значна памякчэлы, папрасіў:

— Паклічце, калі ласка, свайго сабачку...

Я азірнуўся. Дзік, наш рахманы і вясёлы шчанюк, прыціснуў да плота прысадзістага чалавека, паклаўшы яму лапы на плечы, рычаў і дабіраўся да гарлянкі.

Вельмі хацелася блаславіць між вачэй прыпёртага, але нешта стрымала.

— Дзік, сюды!

Калоцячыся, напружаны да апошняй жылкі, сабака паслухаў. Чалавек не паспеў зрабіць кроку, як завыў немым голасам: Дзік ірвануў яго за сцягняк.

— Каму сказана: сюды? А ты — давай адгэтуль... Ї дарогу забудзь.

Чалавек пабег у завулак. Мне каштавала нямала высілкаў утрымаць сабаку за нашыйнік.

— Ціха, дурань! А то бяды набярэшся.

Сапраўды, з завулка пачуўся стрэл, бліснуў імгненны вышуг агню. Поўсць на маім сабаку нашылілася, ён падскочыў, каб бегчы наўздагон.

— Нікуды не пойдзеш, супакойся, — я пачухаў шэрую галаву за вушамі. — Ты хоць і не Рычард, але маеш львінае сэрца. Ї гэта будзе адзначана ў летапісе нашага дому.

Калаціла нас абодвух больш ад узрушэння і неспадзяванасці, хоць і страху хапіла, не ўтаю.

Праходка была сапсавана, хочаш не хочаш — вяртайся дамоў. Так мы і зрабілі. Прыйшлі і расказалі пра здарэнне: не так для выхвалення, як для навукі — вельмі рана і вельмі позна хадзіць аднаму не выпадае.

Сабака атрымаў дадатковы паёк з цялячых храшчыкаў, еў і час ад часу падымаў на мяне галаву. Нібыта запэўніваў: нічога не здарылася і не здарыцца, давай толькі гуляць усюды разам.

*(працяг у наступным нумары)*

**МАКСІМ ЛУЖАНІН**

*АКСАНА СЕНАТОВІЧ*

### Смяльчак

Наш Лявон, як той салдат,
не спужаецца нічога:
ні казы, ні казлянят,
ні ката старога,
ні упартага казла,
ні вароны, ні арла,
ні авечкі кудлатай,
ні гадзюкі хвастатай,
ні дакучлівай мухі,
ні лупатай рапухі,
ні раскацістага грому,
што грукоча і гудзе,
бо маленькаму Лявону
толькі першы год ідзе.

### Крот-скупердзяй

Аяй-яй!
Крот вялікі скупердзяй:
сам упоцемку абедаў,
сам вячэраў,
снедаў сам.
Аяй-яй.

Скупердзяева нара
умяшчае шмат дабра.
І не сорамна яму
ў цемры есці аднаму?

Можа, з намі —
вераб'ямі —
ён падзеліцца харчамі.

Ад усмешак стане ўмомант
змрок святлей,
бо заўсёды есці гуртам
весялей.

### Мы разбілі шклянку чаю

— Ты разбіў!
— Не, ты разбіла!
— Ты штурхнуў!
— Ты цюхцяй.
— А ты нязграба.
— Баабаб!
— Ты баабаба!

Вочы слёзкамі ў дзяўчынкі
наліліся, як хмурынкі,
просяць літасці,
спагады:
— Апяклася?
— А ты рады!

Хлопчык раптам пахмурнеў:
— Ты прабач... Я не хацеў,
я штурхнуў.
— А я ўпусціла.
— Я разбіў.
— Не, я разбіла.

### Гм???

Зноў вярнуўся тата позна,
бо заходзіў да Шпака.
— Да Шпака заходзіў, тата? —
запыталася дачка.

— Так, заходзіў, — кажа тата.
І здзівілася дачка:
гэта як змясціўся тата
ў хатцы цеснай у шпака?

### Страх

Прывітаўся я:
— Гаў-гаў,
будзь здаровы, Янка-дружа, —
ды сваім вітаннем дужа
хлапчука я напужаў.

Ты чаму дрыжыш, нябога?
Я ж не вораг — сябар твой.
Што ж ты шчанюка малога
напалохаўся, герой?

Я бяскрыўдны і ласкавы,
не аўчарка, не бульдог,
і таму не разумею
твой, Іван, перапалох.

Гаў-гаў-гаў — і ты збялееш,
напалохаешся зноў,
бо яшчэ не разумееш
ты маіх сабачых слоў.

Два разы я гаўкну —
значыць,
што цябе я рады бачыць.
Гаўкну я разы чатыры —
ведай: я твой сябар шчыры.
Гаўкну гучна пяць разоў —
разумей: прыйду ізноў.
А калі я сто разоў
гаўкну ўслед тваім сябрам —
ведай: гэта я ўжо сам
н а п а л о х а ў с я.

**Пераклаў з украінскай**
**Ул. Скарынкін**

<u>Беларускія народныя інструменты</u>

## СКРЫПКА

Скрыпка — струнны смычковы інструмент, запазычаны з прафесійнай музычнай практыкі. Вядома ў Беларусі з XVI стагоддзя, у наш час распаўсюджана па ўсёй тэрыторыі рэспублікі. У нацыянальным музычным інструментарыі скрыпка займае адно з вядучых месцаў і па сваёй папулярнасці не ўступае гармоніку і цымбалам.

Гучанне беларускай скрыпкі яскравае, галасістае, моцнае, абумоўлена асаблівасцямі народнай тэхнікі ігры. У музычным побыце выкарыстоўваюцца скрыпкі фабрычныя і самаробныя. Сярод апошніх набылі вядомасць інструменты, зробленыя народнымі майстрамі У. Крайко, К. Жукоўскім, В. Шышко.

Скрыпач іграе значную ролю ў духоўным жыцці беларускай вёскі. Ён абавязковы ўдзельнік вечарынак, ігрышч, бясед, каляндарных абрадаў (каляднага, валачобнага, купальскага), сямейных святаў — вяселля, хрэсьбін. Скрыпка шырока ўжываецца ў ансамблях з іншымі скрыпкамі або гармонікамі, цымбаламі, кларнетам, бубнам, вялікім барабанам у розных спалучэннях. Зрэдку музыканты іграюць сола „для сябе". Рэпертуар народных скрыпачоў даволі разнастайны і ўключае традыцыйныя і сучасныя песні і танцы, вясельныя маршы, гукавыяўленчыя п'есы „праграмнага" зместу.

**Н. ЯКАНЮК**



*На канікулах у Віцебску.*
**Фота М. Лукшы**

## Вясёлы куточак

— Я вельмі занепакоена: мой маленькі Віцька знік.
— Супакойцеся, з ім нічога не здарыцца: яго ўся вёска ведае!
—Баюся, што сёння яго ніхто не пазнае: я яго выкупала...

* * *

Тата, вяртаючыся з камандзіроўкі, паслаў дадому тэлеграму: „Сустракайце". А яе прынеслі на другі дзень пасля прыезду.
— Дый доўга яна ішла! — абурыўся тата.
— А што ж тут дзіўнага, — умяшаўся ў размову малы Міхаська. — Ты ехаў, а яна ішла, таму і адстала!

* * *

Юрка чытае ў заапарку: „Карміць звяроў забараняецца".
— А як жа яны жывуць?! — дзівіцца ён.

* * *

У заапарку хлопцы стаяць каля жырафы.
— Ведаеш, — кажа адзін з іх, — я не хацеў бы быць жырафай.
— Чаму?
— Ты толькі паглядзі, якая ў яе доўгая шыя. Яе ж трэба было б доўга мыць!

* * *

Мірка з Уладзікам прыехалі да бабулі і пайшлі пагуляць у лес. Раптам Уладзік убачыў вужаку:
— Мірка, глядзі, тут толькі хвост круціцца, а сабакі няма.

* * *

Прыбягае хлопчык у краму і просіць:
— Дайце мне паўкілаграма каўбасы, толькі каб сухая не была.
— Чаму? — дзівіцца прадаўшчыца.
— Бо мой тата сказаў, што, калі не будзе сухая, дык я магу яе сам з'есці.

* * *

Дзве мухі бягуць па лысіне спячага чалавека.
— Ведаеш, раней тут была сцежка.

* * *

У лесе над рэчкай турыст расклаў вогнішча і стаў варыць гуляш на вячэру. Але неяк нязграбна павярнуўся, зачапіў за кацялок і выліў гуляш. Тады сказаў:
— Ну і цесна тут, ніяк не павярнуцца.

**Падборку зрабіў**
**ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ**

## ЛАГАГРЫФ




1. белы, пажыўны напітак, 2. папулярная ў Беларусі клубневая расліна, 3. школьны прадмет, які вучыць пра фізічныя з'явы, 4. свінская пасудзіна, 5. чорна-белая птушка, 6. адтуліна, якая часта прадзіраецца ў адзенні і на якую прыходзіцца накладаць латку.

Вылучаныя літары складуць назву мастацтва, да якога залічваецца м. інш. спеў.

## ЛЕЖАБОКА ГАРНАСТАЙ

Жыў у алешніку лежабока гарнастай. Хатка яго пахілілася, дзверы не зачыняюцца, праз акно вецер свішча, а яму хоць бы што.

Бегла неяк ласка да рэчкі вады напіцца, бачыць, ля хаткі гарнастай ляжыць. Яна і кажа яму:

— Чаму ты гэтак сваю хатку запусціў? Аж глядзець на яе страшна. Давай дапамагу табе рамонт зрабіць.

— Без цябе абыдуся, — агрызнуўся на ласку гарнастай і на другі бок паravярнуўся.

— Ну, глядзі сам. Але ведай, што пад ляжачы камень вада не цячэ, — адказала ласка і далей сваёй дарогай пабегла.

Ішлі каля рэчкі два суслікі. Убачылі яны ў алешніку хатку старэнькую і гавораць адзін аднаму:

— Глянь, да чаго гарнастай сваё жытло давёў. Вядома, у няўмекі і рукі — калекі.

Падышлі суслікі да гарнастая, павіталіся і кажуць:

— Чаму ты такі лежабока? Давай тваю хатку да ладу давядзем.

— Самі нябось два боты — пара, — вышчарыўся на суслікаў гарнастай. — Адзін упраўляюся.

Зніякавелі суслікі, пачуўшы такое. Старэйшы тады і кажа маладзейшаму:

— Ат, хочаш, каб было ціха, — не чапай ліха.

І пайшлі суслікі далей, а гарнастай ля сваёй хаткі ляжаць застаўся.

Неўзабаве прыйшла восень. Халады пачаліся. Прачнуўся раніцою гарнастай, па целе дрыжыкі скачуць. Вылез з хаткі і бачыць: непадалёк ад яго зайчык новы домік сабе будуе. Так сякерай размахаўся, ажно шчэпкі ва ўсе бакі ляцяць.

„Трэба і мне сваю хатку пачаць рамантаваць", — падумаў гарнастай. Папрасіў ён у зайчыка сякеру і давай з усёй сілы па дзвярах дубасіць. Дубасіў, дубасіў, а толку ніякага. Раззлаваўся гарнастай і зноў да зайчыка падаўся:

— Ты мне не тую сякеру даў, давай другую.

Засмяяўся зайчык і другую сякеру няўмеку выдаў. Але яна не дапамагла.

Падышоў тады зайчык да гарнастая і кажа:

— Не сякера чэша, а рукі. Глядзі, як рабіць трэба. Не паспеў зайчык сякерай замахнуцца, як гарнастай накінуўся на яго, крычыць:

— Бач, які вучоны знайшоўся! Ідзі адсюль, пакуль я добры!

— Гарбатага хоць да сцяны стаў, а ён усё роўна не выпрастаецца, — сказаў так зайчык гарнастаю, забраў сваю сякеру і пайшоў...

Тым часам бегла па лесе галодная рысь. Бачыць яна: два домікі побач стаяць. Падбегла да аднаго з іх, у якім зайчык жыў, хацела залезці, але туды і камар не ўточыцца. Скокнула рысь да другога доміка, а там дзверы не зачынены, набок пахіліліся, вось-вось з крукоў сарвуцца. Схапіла яна гарнастая і пусцілася наўцёк.

Пачуў зайчык немы крык, усхапіўся з ложка, падбег да акенца, аж бачыць: рысь з гарнастаем у зубах уцякае. „Той не можа быць другам, хто ў бядзе абыдзе кругам", — падумаў зайчык і кінуўся ратаваць гарнастая. Але драпежнай рысі і след прастыў.

Не хацеў слухацца сяброў лежабока гарнастай, дык і загінуў недарэчна.

**ІВАН ГАЛУБОВІЧ**

# Галерэя Тамары Тарасевіч

6 жніўня 1994 г. у Белавежы адбылося афіцыйнае адкрыццё галерэі Тамары Тарасевіч. Падзея гэтая стала важным культурным мерапрыемствам паўночнаўсходняга рэгіёна. У беластоцкай прэсе паявіліся артыкулы, былі інфармацыі па радыё, аднак на адкрыццё ніхто, апрача „Нівы", не з'явіўся. Не было таксама прадстаўнікоў ваяводскіх улад. Неяк дзіўна складаецца, што мастацтвам Тамары Тарасевіч цікавяцца толькі беларускія дыпламаты.

— Гэта было відаць на Купаллe і сёння, — сказаў Сяргей Тарасевіч (муж мастачкі) падчас афіцыйнага адкрыцця галерэі.

Прыбылі людна шанаваныя госці. Сярод іх варта адзначыць консула Пасольства Рэспублікі Беларусь Міхаіла Аляксейчыка з жонкаю, настаяцеля праваслаўнага прыхода айца Сяргея Корха, ксяндза Ежы Бузуна, прадстаўнікоў свету навукі, культурных установ, настаўнікаў. Прысутнічалі таксама вядомыя чытачам „Нівы" Георгій Валкавыцкі і Галена Анішэўская. Апрача афіцыйнай польскай мовы, можна было пачуць беларускую і англійскую.

Прэзентацыя карцін, разьбы па дрэве і этнаграфічных экспанатаў была папярэджана сімвалічнай чаркай віна, а гэта, паводле слоў Сяргея Тарасевіча, мела ўзмацніць каларыстыку галерэі. І тут варта адзначыць непаўторную кoлераў, якія выявіліся ў працах мастачкі. Схіляюцца яны да мастацкіх выяўленняў колеру ў этнаграфічных працах-вышыванках, аздобе вопраткі. Тамара Тарасевіч памясціла ў галерэі 100 прац. І як сама ацаніла — адны для яе вельмі блізкія і каштоўныя, а другія былі створаныя ў хуткім часе, якраз дзеля папаўнення.

— Маецца ўражанне поспеху, — гавораць гаспадары галерэі.

Аб гэтым сведчаць таксама памятныя запісы наведвальнікаў з усяго свету. 50% прац мае ўжо сваіх патэнцыяльных кліентаў. Пакуль што карціны не прадаюцца. Ёсць планы зрабіць фільм, паступаюць запрашэнні ладзіць выстаўкі ў Варшаве, Гданьску, Вроцлаве. Спакуслiва выглядае таксама прапанова паказаць працы ў ЗША. Аўтарка сумняваецца аднак, ці хопіць ёй на гэта грошай. Галерэя арганізавалася на ўласныя фінансавыя сродкі. Гмінная ўправа ініцыятыву спадарства Тарасевічаў палічыла камерцыйнай здзелкай і фінансавай падтрымкі з іх боку не было. А спонсары тут неабходныя. Усе госці адзначалі, што галерэя Тамары Тарасевіч мае характар сапраўднага белавежскага цэнтра культуры. Апрача прац мастачкі можна пабачыць тут разьбу па дрэве Марыі Смактуновіч, фігуратыўную разьбу ў ліпе Шчэнснага, цікавую (і дацэненую на Захадзе) „караняпластыку" Станіслава Банаха, а таксама мастацкія формы натуры, сабраныя Сяргеем Тарасевічам. Даволі багатую частку галерэі складаюць этнаграфічныя экспанаты. Сярод іх — сельскагаспадарчыя прылады, народная вопратка, кераміка. Цікавым акцэнтам з'яўляюцца фрагменты урны са старажытнага кургана, што пад Белавежай.

— Dojdzie do tego, że trzeba będzie budować muzeum, — чулася ў размовах запрошаных гасцей.

Задума арганізаваць галерэю ўзнікла два гады таму. Пастаянна былі клопаты з памяшканнем. Урэшце пашчасцілася знайсці адпаведны будынак з буслiным гняздом на коміне. Дом мае сваю атмасферу. Як расказваў мне Міхась Байко, жыў у ім цікавы дзядзька, якога называлі „віленцам". Дзядзька гэты вылучаўся тым, што гаварыў на літаратурнай беларускай мове. Георгій Валкавыцкі расказваў пэўныя нюансы, якія тут таксама неяк дзіўна сплятаюцца. Гэты ж „віленец" быў пасля вайны начальнікам пошты. Якраз у тым часе ў Белавежу прыходзілі пісьмы з Амерыкі да аднаго дзядзькі. Пісьмы, паводле многіх, скрывалі ў сабе долары, якія ніколі не пабачылі адрасата. Неўзабаве ў начальніка пошты вырасла прыгожая, драўляная дача. Хата аднак перайшла ў рукі чужых людзей. Неўзабаве яны выехалі ў Варшаву, а дом стаяў пусты.

Да цікавінак варта дадаць гісторыю са славутым белавежскім дубам, на якім паяўляецца чалавечая галава (аб гэтым пісаў Пётр Байко у „Ніве"). Тамара Тарасевіч пачала маляваць якраз тады, калі ў дуба абарвалася вялікая галіна. Справа фантастычная, бо гледачы прац Тамары Тарасевіч бачаць у яе мастацтве вялікую эманацыю жыватворнай энергіі (такую эманацыю рассявае той жа дуб).

— Я жрыца пушчы, — гаворыць мастачка. Таму яе вобразы насычаны стыхіяй пушчы, яе сілай, каляровасцю і таямнічасцю. Праз змест і містычныя адценні прарываецца таксама трывога за будучыню пушчы. Спусташэнне белавежскай пушчы, на жаль, паступае маланкава.

Тамара Тарасевіч па прафесіі дыпламаваная медсястра. Адкрывальнікам яе таленту быў Мікалай Валкавыцкі.

— Іншыя таксама далі мне падтрымку і я пачала маляваць, — кажа спадарыня Тамара.

Сёння працы мастачкі захапляюць многіх наведвальнікаў галерэі. Найбольш палымянымі паклоннікамі яе таленту з'яўляюцца заходнія турысты. Зачароўвае іх менавіта тое, што працы Тамары Тарасевіч цесна павязаныя з асаблівым рэгіёнам — Белавежай. Варта наведаць гэтае яшчэ адно цікавае месца.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**

Вяртанне нацыянальных каштоўнасцяў

# ЦАРКОЎНАЕ МАСТАЦТВА

## Частка IV

Калі ў верасні і кастрычніку 1986 года я некалькі разоў пабываў у Ленінградзе, у Эрмітажы, са здзіўленнем даведаўся, што цудоўныя партрэты Крамского з'явіліся толькі нядаўна, а раней яны гадамі ляжалі ў падвале. Экспазіцыя іконаў налічвала не больш трыццаці штук, хаця ў сховішчах іх былі тысячы. Абшырныя залы былога Зімовага палаца ў ніякім выпадку не памесцілі б усіх сабраных скарбаў. Тое, што можна пабачыць, гэта маленькая частка неверагоднa багатых збораў, якія налічваюць каля трох мільёнаў экспанатаў. Яны толькі тэарэтычна „агульнадаступныя", але на самой справе некаторых экспанатаў за наша кароткае жыццё не паспеем убачыць, нават калі б іх вырашылі паказаць.

Яшчэ горш справа маецца з бібліятэкамі і архівамі. Іхныя зборы таксама агульнанацыянальная ўласнасць, але паспрабуйце азнаёміцца з архівамі КДБ. Калі я пісаў магістэрскую працу на тэалагічную тэму, у Бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына патрэбнае было хадайніцтва рэктара Духоўнай акадэміі каб атрымаць запыленыя творы святых Айцоў, старанна прыхаваныя і ў ніякім выпадку недаступныя для ўсіх. Калі б яны знаходзіліся ў бібліятэцы Тэалагічнай акадэміі, кожны меў бы доступ да іх. Калі б слуцкія паясы знаходзіліся ў Слуцку, таксама былі б даступныя, але ў Эрмітажы вы іх не пабачыце.

Музеі лічаць, што толькі яны могуць гарантаваць найстражэйшы дакументальны улік і надзейную ахову перад крадзяжом. Кожная парафія мае дэталёвы спісак усёй маёмасці, якую камісійна прымае новы настаяцель і перадае свайму пераймальніку. Каштоўныя прадметы звычайна захоўваюцца ў сейфах. Крадзяжы, зразумела, здараюцца, але яны здараюцца і ў найлепш ахоўваных музеях, напрыклад, у парыжскім Луўры. Музей у Амстэрдаме таксама нядрэнна забяспечаны, але і ён не здолеў усцерагчы карціну Рэмбранта „Начная варта", якую моцна пашкодзіў нейкі шаленец і некалькі гадоў працягвалася карпатлівая рэстаўрацыя славутага палатна.

Апаненты вяртання Царкве каштоўных твораў рэлігійнага мастацтва лічаць, што яна не ў стане гарантаваць адпаведную тэмпературу і вільготнасць. У гэтым выпадку трэба згадзіцца з музейнікамі, што вялізнага храма немагчыма абагрэць гэтак, як музейную залу. Немагчыма пазбегнуць таксама вільгаці, але яе дастаткова таксама і ў музейных сховішчах. Пра ікону, якая лічыцца, напрыклад, цудадзейнай, Царква лепш дбае, чым музей, для якога гэта звычайны, мёртвы прадмет, адзін з тысяч падобных. Каб пра нешта дбаць, трэба спярша шанаваць, а больш набожнай дбайнасці пра культавыя прадметы не можа быць нідзе гэтулькі, як у Царкве.

З чацвёртым прынцыпам, якога нібыта Царква не можа гарантаваць, таксама не цалкам можна згадзіцца. Музейнікі лічаць, што Царква не мае магчымасці праводзіць навуковую рэстаўрацыю помнікаў культуры, якая выключае гэтак званы „абнаўленні", што скажаюць сапраўдную старажытную структуру прадмета. „Абнаўленні" і пакрыванне іконаў металёвымі рызамі сапраўды практыкаваліся з меркаваннаў рэлігійнай мэтазгоднасці. Іконы не ўспрымаліся як творы мастацтва, паколькі іх лічылі „тэалогіяй у фарбах" і нават аўтары не падпісваліся на іх. Арыгіналы з прычыны несвядомасці не гэтулькі знішчаліся, колькі замалёўваліся. Паколькі лак, якім звычайна забяспечваюць малюнак перад вільгаццю, чарнее і праз восемдзесятсто гадоў малюнак становіцца нябачным, практыкаваліся гэтак званыя „абнаўленні" іконаў. На папярэднім пласце фарбы выконвалі наступны малюнак, які, зразумела, адрозніваўся ад арыгінала. Дасканалым прыкладам гэтай непахвальнай практыкі, якая зараз ужо мала праўдападобная, можа быць ікона „Св. Тройцы" Андрэя Рублёва. Гэты выдатны іканапісец намаляваў яе ў 1425 годзе і паўтара стагоддзя пазней маскоўскі Сабор „Ста Раздзелаў" прызнаў яе ўзорам для іканаграфіі і для ўсіх выяваў Святой Тройцы. У 1904 годзе рэстаўрацыйная Камісія зняла з яе металёву рызу і восем пластоў пазнейшых перамалёвак. Інтуіцыя падказвала, што арыгінал знаходзіцца глыбей і сапраўды, пасля ачысткі, члены Камісіі былі літаральна ашаломлены творам Рублёва. Можна смела прызнаць, што няма на свеце іконы, якая з пункту гледжання тэалагічнай сінтэзы, багацця сімволікі і мастацкай прыгажосці магла б раўняцца з „Тройцай" Рублёва. Зараз яна знаходзіцца ў Трэцякоўскай галерэі, але неўзабаве можа быць перададзена Маскоўскай Патрыярхіі. Няма сумнення, што Царква належным чынам задбае пра яе і створыць аптымальныя ўмовы для яе перахоўвання.

Сучасны стан свядомасці не дазваляе ўжо знішчаць твораў царкоўнага мастацтва, як гэта здарылася з „Тройцай" Рублёва. Рэстаўрацыя старажытных прадметаў даручаецца спецыялістам, дакладна тым самым, якім даручаюць свае калекцыі музеі. Для надзвычайнай гістарычнай каштоўнасці твораў Царква таксама стварае належныя ўмовы. Гэта значыць, што часы цемрашальства мінулі і вяртаючы Царкве творы рэлігійнага мастацтва, аддаюцца яны ў адпаведныя і, пераважна, надзейныя рукі.

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

# ПАДАРУНАК БЕЛАВЕЖЦАМ

Толькі што выйшла з друку кніжка аўтарства нашага карэспандэнта Пятра Байко п. з. „Cerkiew i parafia prawosławna w Białowieży"*). Як пэўна чытачам „Нівы" вядома, аўтар пра Белавежу ведае амаль усё. Таму добра, што менавіта ён узяўся за гэтую працу. Не ёсць гэта ні гістарычны аналіз, ні літаратурны твор, а проста даведнік, які змяшчае ўсе асноўныя інфармацыі пра Белавежу.

Першы раздзел кніжкі поўнасцю прысвечаны гісторыі гэтага мястэчка. Байко паказаў у ім, кім былі першыя жыхары пасёлка, чым займаліся, што і калі было пабудавана, якія славутыя людзі наведвалі ў мінулым Белавежу. Напрыклад, не ўсім вядома, што ў былым царскім палацы свае апартаменты меў прэзідэнт II Рэчы Паспалітай Ігнат Масціцкі. Яго гасцямі ў гэтым пасёлку былі, між іншым, кіраўнікі гітлераўскай Нямеччыны: Герман Герынг, Генрых Гімлер, прадстаўнік фашысцкага ўрада Італіі граф Галеаца Чыана, прэм'ер-міністр Венгрыі Міклаш Хорці.

Падчас вайны акружаючая пасёлак Белавежская пушча была домам для шматлікіх партызанскіх груповак. Мемарыяльная дошка побач царквы, там, дзе стаяла шыбеніца, сведчыць аб драматычных падзеях у Белавежы і ваколіцы падчас нямецкай акупацыі.

Другі раздзел кніжкі поўнасцю прысвечаны гісторыі ўзнікнення і развіцця праваслаўнай парафіі ў гэтай мясцовасці. Палітычныя падзеі на нашай зямлі заўсёды моцна ўплывалі на царкоўнае жыццё. У Белавежы, дзе царская сям'я мела сваю рэзідэнцыю, царква мусіла адпавядаць рангу вернікаў прысутных на багаслужбах. Няёмка было б цару і яго дастойным гасцям маліцца ў вясковай драўлянай царкоўцы, якую трэба было нават падпіраць шастамі. Дзякуючы намаганням царскай сям'і, была пабудаваная чырвоная царква, якая стаіць у Белавежы па сённяшні дзень.

Неверагодную гісторыю рамонту царквы ў 1943 г. апісаў П. Байко ў сваёй кніжцы. Згоду на рамонт белавежскія прыхаджане шукалі аж у канцылярыях Берліна. У канцы дазвол падпісаў сам маршал Герынг.

Вартасць кніжкі Пятра Байко ўзбагачаюць арыгінальныя здымкі, некаторыя яшчэ з мінулага стагоддзя. Аб'ём кніжкі хаця і не надта вялікі, але затое змест вельмі цікавы. Гэты выдатны падарунак Пятра Байко, перш за ўсё жыхарам Белавежы, будзе таксама прыдатны тым, хто цікавіцца гісторыяй Беласточчыны. Шкада толькі, што не ў кожным мястэчку ёсць хтосьці такі, як Пётр Байко ў Белавежы. Інакш тады выглядала б гістарычная панарама гэтай зямлі. Гісторыкі не ўсё могуць і не ўсё хочуць напісаць пра нашу спадчыну. Таму кожная такая кніжка, якую напісаў П. Байко, ратуе ад забыцця ўсё тое, што стварылі нашыя продкі.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

---

*) *P. Bajko, Cerkiew i parafia prawosławna w Białowieży, Białystok, 1994, wyd. Parafii Prawosławnej p. w. św. Mikołaja w Białowieży.*

Рэстаўратар Уладзімер Ракіцкі: Адчуць дыханне майстра

# „НІВА" Ў КЕЛЛІ ЕЎФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

**Міра Лукша**: Калі пачалася рэстаўрацыя Спаса-Еўфрасіннеўскай царквы?

**У. Ракіцкі**: Гэтыя вось рыштаванні паставілі ў 1992 годзе і лічыцца, што з гэтага года ўсё даследавалі і вядзем працу. Да гэтага мы працавалі тут у келлі. Пакуль пачаць рэстаўрацыю, трэба занатаваць стан, у якім усё знаходзіцца, усё запісаць, зафіксаваць. Вось гэты ўвесь алейны жывапіс, усё, што намалявана ад XII стагоддзя трэба таксама захаваць, перанесці.

**М.Л.**: Колькі слаеў трэба было б зняць, каб дайсці да пачатку?

**У.Р.**: Вось памуляйце рукою: бачыце, як тут усё замалявана, затынкавана. А гэта ўжо адкрыты фрагмент фрэскі. Пабачыць можна менталітэт часу. Вось тут апошні слой, толькі рыскі нейкія. Пад гэтым было яшчэ нейкае аздабленне, кветачка. А яшчэ ёсць нейкія перадзіркі, перамалёўкі, і вось гэта ўжо фрэска. Але ж калі дабрацца да яе, трэба прайсці 8—9 слаеў. Усяго не будзем захоўваць, але кавалкі пакінем, каб людзі бачылі, што такое тут было, што сцены перажылі і гэта, многа чаго і каго бачылі. Па ўсёй царкве мы зрабілі такія зандажы і з радасцю ўбачылі, што ўсе сцены, уся царква без зменаў дайшла да нас і ўтрымала той першапачатковы, старажытны жывапіс. Зараз у нас такое заданне: дабрацца да пачатку, а каб гэта ўсё зрабіць, трэба гэта ўсё ці счысціць, ці расслаіць. Самыя каштоўныя кавалкі трэба расслаіць. Перадусім — вялікая праца па фіксацыі. Вось келля Еўфрасінні ў нас зафіксавана ў маштабе 1:1 у стане, з якога мы пачыналі працу — на фота, акварэлі, на вялікіх лістах. Вось пасля такой працы можам пачынаць непасрэдную працу на сцяне.

**М.Л.**: Колькі вас тут усіх працуе?

**У.Р.**: Мяняюцца колькасць і састаў, таму што так доўга на адным месцы працаваць нават фізічна цяжка. Я таксама вось на тыдзень з'ехаў. А ў летні перыяд дапамагаюць нам таксама розныя людзі. У нашай брыгадзе 15 чалавек. Мікола Залатуха, Аляксандр Астравух, Сяргей Верамейчык, Ігар Кныш, наш брыгадзір Пятро Сарока, вучні... І хімікі, і інжынеры... Я з'яўляюся аўтарам гэтага аб'екту. У нас цяпер у Рэспубліцы выйшаў такі закон, які абавязвае тых людзей, якім дадзена дазвол на правядзенне рэстаўрацыйных прац мець сертыфікат у камісіі па ахове нашых здабыткаў. Я з'яўляюся адказным за правядзенне рэстаўрацыйных работ на гэтай царкве — жывапісу і архітэктуры. І вядома, адказваю за людзей, якія тут працуюць, за іх узровень, навучанне, свядомасць і ўсе астатнія якасці. Дапамагаюць нам не толькі спецыялісты з Менска. Вось ўдзельнічаюць у працах нават школьнікі з мастацкай школы ў Полацку, між іншым Іра Кравец. Грошы на рэстаўрацыю выдаткоўвае Упраўленне па рэстаўрацыі помнікаў пры Савеце Міністраў.

**М.Л.**: У якім стане знаходзяцца вядомыя з кніг і падручнікаў фрэскі?

**У.Р.**: Фрагменты іх былі адкрыты рэстаўратарам Чэрыкавым у 1929 годзе, калі прыбыла сюды з Масквы камісія на чале з Грабаром. Мы сочым за гэтымі фрагментамі, як яны сябе паводзяць, як утрымоўваюцца. Асноўную працу мы пачалі з цэлага храма. Дагэтуль ён меў вывучэнне фрагментарнае, часовае, непаслядоўнае. Сёння маем дакладную дакументацыю храма поўнасцю. Блытаніна ў планах, у разрэзах, бо ўсё гэта, што друкуецца ў энцыклапедыях да сённяшняга дня паўтарае памылкі! Будзем старацца ў бліжэйшы час апублікаваць нашы абмеры, каб ужо ў навуковы ўжытак увайшлі дасканалыя і больш дакладныя матэрыялы, якія мы ўжо назапасілі. Летні час выкарыстоўваем для гэтага, каб працаваць тут на месцы, а недзе ўзімку зоймемся падсумаваннямі.

**Алег Мацієвіч** (Беларуская акадэмія мастацтваў): Усё нашае беларускае — адсюль. Вы, калі зробіце сваю цудоўную і велізарную справу, павінны прадставіць плён вашай працы на самым высокім узроўні. Я ўяўляю сабе, чаго гэта вам каштуе, у розных аспектах. Гэта павінна працаваць не толькі праз храм, але і праз эстэтычныя працы і манаграфіі, і самыя найлепшыя рэпрадукцыі. Усё на найвышэйшым узроўні. Бо ў нас акрамя гэтай святыні з такім значэннем нічога такога больш няма.

**У.Р.**: Да гэтага яшчэ шмат часу. Нам трэба зрабіць усю працу па раскрыцці. Зазначаю, што фрэскі захаваліся на ўсіх сценах царквы і гэта вялікі цуд, таму што некаторыя даследчыкі сцвярджалі, што быў перабудаваны і зменшаны купал і невядома ці захаваўся жывапіс. Зараз гаворка ідзе пра тое, якім чынам гэта раскрыць, што складана, бо ўзнікае пытанне, што зрабіць са слаямі, якія пакрываюць гэтыя фрэскі. Каб зняць і захаваць гэтыя больш познія сцены, трэба час і сродкі, але гэта магчыма. І мы захаваем лепшыя кавалкі позняга жывапісу. Ёсць месцы проста затынкаваныя, а каб тынк зняць з фрэскі, так каб яе не пашкодзіць, трэба дасціпнасці і ўважлівасці. Прыходзіцца працаваць з павелічальным шклом, каб з тынкам не зняць і тыя фрагменты, якія для нашай зямлі з'яўляюцца скарбам. Мы не аднаўляем, наша заданне — вызваліць жывапіс ад усіх гэтых насленняў з мэтай захаваць больш познія слаі і закансерваваць той стан, у якім дайшлі да нас гэтыя фрэскі. Гэта нармальная метадалагічная мэта кожнага рэстаўратара. Гэта не так, што гэта мы прыдумалі ці гэта наша канцэпцыя; такія ёсць міжнародныя нормы, дырэктывы, паслядоўнасць у рамесніцкім працэсе, якой не можам парушыць. А адносна шыкоўнай публікацыі — гэты помнік заслугоўвае гэтага, хаця не час яшчэ пра гэта гаварыць.

Узнікне патрэба, знойдуцца і людзі, і сродкі, каб гэта зрабіць. Мы намагаемся сваю працу выканаць як мага хутчэй. У адных месцах робіцца гэта скарэй, у іншых памалу. Спускаешся ў той незнаёмы час і не ведаеш, што цябе чакае. І кожны свой крок трэба фіксаваць; можа, калі дзе і зробім мы памылку, то няхай людзі, якія прыйдуць за намі, прасочаць, як мы і што рабілі, якія прылады ўжывалі, якія клеі — усё павінна быць адзначана. Усё згодна з рэстаўрацыйнымі нормамі.

**М.Л.**: Тут усё — частка гісторыі.

**У.Р.**: Кожны квадратны сантыметр напоўнены гісторыяй і ёсць яе сведкам. Мы павінны вельмі ўважліва ставіцца да кожнага кавалачка. Раскрыць і ўважліва прачытаць,,, таму што мы ўсе вельмі недакладна, прыблізна ведаем сваю гісторыю, а гэты помнік застаўся жывым сведкам гісторыі і яе ілюстрацыяй. Вось на сценах келлі Еўфрасінні шмат не толькі жывапісных слаёў, але ёсць і графіці, якія мы павінны ўважліва прачытаць, зазначыць, калі гэта напісана і кім. Шмат лацінскіх надпісаў, асабліва XVI-XVII стагоддзяў. І так на ўсіх сценах. Калі ўважліва глядзіш, прачытаць можаш вялікую гісторыю...

А вось тут маленькая келля. Яна пабудавана ў плане крыжа. Бачыце гэтыя цёмныя часткі — яны засмаленыя ад свечак, а калі іх пачысціць, яны становяцца жоўтымі. Гэта па сутнасці звычайная алейная фарба, пад ёю ёсць яшчэ адзін слой — Хрыстос трымае кнігу — яшчэ алейны жывапіс, пад ім яшчэ некалькі слаёў, а ўжо потым ідзе толькі фрэска, дэісусны рад, па левую руку Хрыста Іаан, па правую — Марыя. Паглядзіце, як добра захаваўся тут колер! Бачым, што жывапіс захаваўся ўсюды пад аблупіўшымся алеем.

Калі мы ўжо ўсё зафіксавалі на паперу, на фотаплёнку, праводзім расчысткі. Да слаёў можна ставіцца па-рознаму. Вось бачым дату: 1624 год. Надпісы розныя па ўзроўню выканання, можна ставіцца да іх як да вандалізму, бо па сутнасці яны былі напісаны на фрэсках невядомым якімсьці чалавекам, можа, вучнем, невядома, ці бачыў ён, па чым пісаў, але ж тым не менш і гэта пераўтвараецца ў сведку мінулага, адбівае той узровень, менталітэт часу. Цяпер мы зыйдзем уніз, дзе стаіць грабніца са святымі мошчамі Еўфрасінні.

Вось вядомыя з падручнікаў фрэскі, адкрытыя ў 1929 годзе. Знізу мы іх прысланілі сеткай, каб людзі не абцерлі сцэны, а там жа таксама яшчэ шмат цікавага. Куды ні глянь на сцяну — прабіваюцца з-пад позніх слаёў фрэскі, паглядаюць на нас. Гляньце на гэтыя рукі: яны быццам засцерагаюць: не кранайце! Тут ёсць яшчэ адна, этычная праблема: калі не быць падрыхтаваным да гэтай працы, можна проста нарабіць шкоды. Многія рэстаўратары (ёсць такія факты, асабліва ў нас у Беларусі) нарабілі бяды. Нельга ставіць толькі адну мэту — адкрыць. Я заўсёды гляджу на гэтыя рукі і пытаю сябе: ці яны просяць, ці адхінаюцца ад гэтага новага? Шмат часу іх проста ніхто не бачыў. Ніхто не ўяўляе, што гэта будзе. Кожнае жывое патрабуе скрыцця. Наша праца адкрыцця — гэта скрыць ці адкрыць, ёсць такая амбівалентнасць. Гляньце — гэты густы, грубы алей пакрывае святую, гладкую паверхню фрэскі, якая патрабуе вельмі высокага майстэрства выканання, таму што мастак павінен быў выканаць яе вельмі хутка, пакуль не высахне мур, дзённую працу зрабіць з вялікай адказнасцю і майстэрствам. Кожны яго рух зазначаўся і адбіваўся назаўсёды. Чаму трэба быць падрыхтаваным нават гледачом? Я нават пра сябе кажу, што хаця столькі год я тут, кожны раз для сябе адкрываю нешта новае. Сёння я ў такім стане, і я сёння ўбачу. Рэстаўратар павінен быць на такім жа ўзроўні, як той майстар. Адчуць яго дыханне. Ёсць такі рускі верш: *На стенах веков отпечатаны пальцы. Вложи в них свои и почувствуй их жар.* Каб адчуць подых таго часу і майстра, я павінен быць не менш яго ўзрушаным. Быць падрыхтваным трэба, каб толькі ўбачыць, не кажу ўжо каб адкрыць.

**М.Л.**: Дзякуем за размову. Асабліва нам прыемна, што ў келлі Еўфрасінні на століку засталася наша „Ніва"...

**У.Р.**: Прыязджайце, пішыце пра тое, што робім, каб людзі ведалі. Прывітанне чытачам „Нівы". Я сам амаль сусед — з Пружаншчыны, а мой дзядзька Міша ездзіў роварам у Гайнаўку вучыцца...

**Запісала МІРА ЛУКША**
**фота аўтара**



*Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр у Полацку зноў дзейнічае ад 1989 года.*

## СВЯТЫ АПОСТАЛ МАТФЕЙ

Апостал Матфей, які выводзіўся з пакалення Іуды, нарадзіўся ў Віфлееме. Ён з ранняга юнацтва чытаў святыя кнігі і вучыўся пад апекай Святога Сімяона Багапісмца. Калі Хрыстос аб'явіў Сябе свету, прымаючы хрышчэнне ад Святога Іаана Прадцечы, і пачаў Сваю місію, Матфей пакінуў усё і пайшоў за Ім. Быў ён адным з ліку тых, якія з Хрышчэння ў Іардане па Узнясенне на Еляоне пастаянна прабывалі са Збавіцелем. Ён быў выбраны не толькі ў круг вучняў, але і ў групу сямідзесяці апосталаў (т.зв. меншых), якіх Хрыстос пасылаў перад Сабою: „Пасля гэтага выбраў Гасподзь і іншых семдзесят вучняў і паслаў іх па двух перад абліччам Сваім у кожнае месца, куды сам меўся ісці" (Лук. 10,1).

Пасля Узнясення Апостал Матфей быў выбраны тым, які папоўніў лік дванаццаці галоўных апосталаў, калі адышоў Іуда Іскарыёцкі. Вось што аб гэтым піша Свяшчэннае Пісанне: „Дык трэба, каб з тых мужоў, што знаходзіліся з намі ўвесь час, як прыходзіў і адыходзіў ад нас Гасподзь Ісус... адзін з іх стаўся б разам з намі сведкам уваскрэсення Яго. І паставілі двух: Язэпа, званага Варсавай, па мянушцы Юста, ды Матфея і, молячыся, казалі: Ты, Госпадзе, які ведаеш сэрцы ўсіх, пакажы з гэтых двух аднаго, каго Ты б выбраў... І кінулі жэрабя аб іх і выпала жэрабя на Матфея і далучаны быў да адзінаццацёх Апосталаў (Апост. Дз., 1,21-26). Згодна Святой Традыцыі, Апостал Матфей спачатку навучаў у Іудзеі, а потым у Эфіопіі і Македоніі, дзе многа папакутаваў. Пасля вяртання ў Іудзею далей распаўсюджваў Божае слова і здзяйсняў многія цуды. У гэты час першасвяшчэннікам быў Ананій, які ненавідзеў Хрыстовую навуку і праследаваў хрысціян. Загадаў ён прывесці да сябе Матфея і патрабаваў, каб той адрокся веры ў Хрыста. Апостал Матфей на аснове старазапаветных прароцтваў і правобразаў даказаў, што Ісус Хрыстос — гэта той абяцаны Месія. Такія словы яшчэ больш разгневалі першасвяшчэнніка, які абвінаваціў Матфея ў блюзнерстве і прыгаварыў да забіцця камянямі. Калі ўжо Апостала не стала ў жывых, каб дагадзіць рымлянам, згодна іх традыцыі, адсеклі яму мячом галаву.

Памяць Святога Апостала Матфея ўшаноўваем 22 жніўня (9.08 па старому стылю).

С.Н.

# ЛІТАРАСІЗМ

Хачу дакінуць пару слоў да рэфлексій Глеба Штодзённага пра адну выдавецкую ініцыятыву (гл. „Ніва", н-р 31, 1994 г.), каб стала яснай думка, выказаная ім адносна т.зв. непрафесіяналаў. Госць з Менска, прыехаўшы на семінар, спадзяваўся напэўна высакародных эстэтычных і інтэлектуальных уражанняў і выказаў загадзя на гэтую акалічнасць падрыхтаваную прапанову. Пабыўшы, і пабачыўшы тое-сёе, і, магчыма, захапіўшыся так, што вочы яму на лоб палезлі ад энтузіязму, ён перадумаў свой намер і вырашыў супрацьпаставіць пад адной вокладкай высокі прафесіяналізм кожнага паасобнага з „белавежцаў" і высакаякасны прымітывізм некаторых з іх штотыднёвым рэгулярным пагудкам ніўскіх журналістаў і зачэпкам карэспандэнтаў. Варта прыгадаць, што нападкі, лаянкі і дыктат ніўскіх пісакаў са справядлівай агідай успрымае таксама адзін варшаўска-вясковы аўтарытэт. Прапануе ён выдаваць часопіс, які служыў бы асвятленню беларускіх спраў у Польшчы высакаякаснымі апрацоўкамі высакародных блакітнакроўных аўтараў. Дзеля гэтага ён і яго шляхетныя аднадумнікі дзелавіта прамантачылі амаль усё, што мелі, і тое, што яны атрымоўваюць новую падтрымку, выклікае маю шчырую радасць, а нават захапленне: люба паглядзець, як кемліва Музы размахваюць кулакамі. Адносна „Нівы" хачу дадаць, што рэгулярнасць, якая з'яўляецца фармальнай і неасрэчнай прыметай тыднёвіка, — гэта з'ява не інтэлектуальная ці эстэтычная, толькі, прабачце, фізіялагічная, так як сон, перыстальтыка кішэчніка ці гон катоў і сабак навесну. Таксама неаспрэчнай, бо фармальнай, прыметай мастацтва з'яўляецца членскі білет мастацкага аб'яднання. З пункту гледжання логікі прыдатнасць чалавека ў нейкай арганізацыі акрэсліваецца не хісткай, суб'ектыўнай ацэнкай яго арганізацыйнай якасці, толькі цалкавітай пэўнасцю яго папяровай, фармальнай прыналежнасці так як пэўна, а не наўгад, вядомы яго вага, рост, размер абутку ці дзяржаўнае падданства. І такія цалкам пэўныя прыметы трэба браць пад увагу пры ацэнцы ўсякай кампетэнтнасці, так як, напрыклад, зрабіў гэта год таму адзін падбеластоцкі мастак адносна выказванняў аднаго менскага правінцыяла. Дарэчы, дзяржаўнае падданства павінна быць не абы-якім фактарам кампетэнтнасці, бо хто гэта бачыў, каб, так як год таму ці цяпер, яны — беларускія мужыкі, меркавалі абы-як, без належнай пашаны, пра нас — польскіх паноў.

**Барыс Штотыднёвы,**
**князь герба „Салома за Халявай"**

# НАШ ХЛЕБ ШТОДЗЁННЫ...

Калі прафесар Глеб Штодзённы хоча яшчэ чакаць — наконт кнігі „іншавежцаў" у Менску — яго справа. Гэта ён прафесар, так як і Уладзімір Гніламёдаў, толькі вынікі іх навуковай працы непараўнальныя, як бы на гэта не глядзець. Ніхто з ліку „іншавежскіх" пісьменнікаў паміж сабою не „пераглядаўся" ды не рабіў мінаў, калі праф. Ул. Гніламёдаў гаварыў пра сваю канцэпцыю анталогіі, апрача самога Глеба і адной крытычкі, раней друкуючайся па розных газетах, якой „Іншавежа" за міністэрскія грошы выдала дзве быццам навуковыя кнігі, цалуючы яе за гэта па ручках за ласку, што захацела пра „іншавежцаў" сказаць польскае слова; от, такая ў нас мужыцкая псіхалогія. Калі Г. Штодзённы не хоча, каб у анталогіі знайшліся ў аддзельным раздзеле верш напр. Дзядзькі Кваса ці замалёўка Аўроры, бо не гонар яму будзе, то што ж зробіш. Сярод яговых твораў таксама не ўсе шэдэўры, але да ўсіх ён адносіцца з аднолькавай любасцю, што відна ў „Люльцы міру", якой рэдактарам быў ён сам, як і ўсіх іншых кніжак з „бібліятэкі „Іншавежы", нават калі рабілі гэта іншыя. Можа, гэта такая хвароба класікаў? Сам жа прафесар казаў, што калі пісьменніка хваляць, гэта ўжо ягоная смерць. Дворскі і дваровы лізун — ці гэта вялікая розніца? Давайце, будзем забаўляцца на стронках „Нівы", падпісваючыся псеўданімамі, а пазнаваць нас будуць чытачы па памылках. Каб толькі рэдактары нас не папраўлялі. Бо прафесарам няма ўжо чаго вучыцца!

праф. **ВАНДАЛ АРЛЯНСКІ**

# УЛАДЗІМІР КЛІШЭВІЧ — ПАЭТ РЭФЛЕКСІЎНЫ

## Частка XX

*(заканчэнне)*

Усё сказанае мною аб жыцці і творчасці Уладзіміра Клішэвіча мае эскізны характар. На жаль, не ўся яго творчасць была мне даступнай і таму не ўсе яе важныя элементы знайшлі характарыстыку ў маім нарысе. Заканчваючы разважанні аб творчасці паэта яшчэ раз хацелася б мне падкрэсліць эвалюцыйнасць і яе рэфлексійнасць. Вынесены ў загаловак тэзіс аб рэфлексійнасці найбольш поўна пацвярджае паэзія нямецкага і амерыканскага перыядаў. Найменш рэфлексійнасці ў неасавецкіх вершах, якімі заняўся аўтар у апошнім дзесяцігоддзі свайго жыцця.

У заканчэнне хацелася б мне прывесці нявыкарыстаны дагэтуль верш Уладзіміра Клішэвіча „Развітанне", напісаны ў часе падарожжа праз Атлантычны акіян у маі 1946 года.

*Бывай Эўропа, Беларусь бывай!*
*Іду ад вас амаль назаўсёды.*
*Віхор жыцця мяне ў далёкі край*
*нясе на хвалях бурнае вады,*
*у Новы Свет цяпер кідае лёс,*
*выгнаннік я жыву, як на бяду.*
*Ніхто маіх не бачыць слёз,*
*у родны край ніколі не прыду.*
*Шляхі мае, цярнёвыя шляхі,*
*калі змагу я вольна рукі ўзняць,*
*каб памаліцца Богу за грахі*
*перад другім жыццём на сконе дня?*
*Шуміць вада... Бушуе акіян...*
*Кідаюць к нізу хвалі параход.*
*Баліць душа ад незагойных ран,*
*пылае помстай сэрца за народ.*
*Навокал царства неба і вады...*
*Блакітны май, вады зялёны май,*
*куды нясеш мяне, скажы, куды?*
*Бывай Эўропа, Беларусь бывай.*

Прыведзены верш з'яўляецца пераканаўчым прыкладам арганічнага спалучэння ў адну цэласць публіцыстычнага і рэфлексійнага, палітычнага і высокамастацкага. А што датычыцца галоўных думак аўтара, выказаных у гэтым творы, дык яны не апраўдаліся. Перадусім не пацвердзілася катэгарычная заява аб тым, што паэт ніколі „не прыйдзе ў родны край". Жыццё ў гэтай справе ўвяло сваю карэктуру. Даруем паэту гэтую памылку!

На заканчэнне варта прывесці фрагмент прыгожага верша „З табою мы заўсёды неразлучны", у якім аўтар сфармуляваў у прыгожай форме погляд на істоту паэзіі ў сваім жыцці.

*З табою мы заўсёды неразлучна*
*шагаем у бяздонный ночы.*
*Сугучна мы ідзем ці не сугучна,*
*а ўсё ж мы ідзем, а ўсё ж мы крочым.*
*Вялікі шлях прайшлі цярнёвы*
*і падалі, і падніmaліся нанова,*
*то горда йшлі, узняўшы ўверх галовы,*
*то ціха крочылі без слова.*
*І ты, мой верш, мой верны дружа,*
*ты быў адзінай мне апорай —*
*ці я згінаўся перад сцюжай,*
*ці быў засмучаны ад гора.*
*У тварэнні вольнасці вялікай*
*прыходжу толькі да спакою:*
*тады я цар, тады ўладыка.*
*зямля — нішто перада мною.*

Верш гэты хораша перадае істоту тага дзівоснага лабірынта, якім з'яўляецца верш і ўся паэзія.

Што яшчэ можна сказаць аб творчасці Уладзіміра Клішэвіча? Мабыць тое, што амаль на ўсіх этапах была яна формай самавызвалення і незалежнасці аўтара. Аднак ёсць у яго паэзіі і два перыяды падпарадкавання. Першы звязаны з перыядам нямецкай акупацыі, другі — з апошнім дзесяцігоддзем яго жыцця, які ўмоўна называю неасавецкім.

Палітычная аднaзначнасць з'яўляецца, мабыць, галоўным ворагам паэзіі. Бачым гэта на прыкладзе творчасці Уладзіміра Клішэвіча. На шчасце, такога тыпу аднaзначнасць была рэдкім госцем у яго паэзіі.

Савецкія крытыкі на працягу дзесяткаў гадоў павучалі, лаялі, крытыкавалі і знішчалі пісьменнікаў за іх палітычныя погляды, ідэі і перакананні. Не буду паўтараць іх памылак пры разглядзе творчасці Уладзіміра Клішэвіча. Канстатую толькі элементарныя факты з жыцця і творчасці гэтага паэта і падкрэсліваю, што гэта творчасць з'яўляецца вялікай святыняй, у якую нельга ўлазіць з бруднымі ботамі.

Уладзімір Клішэвіч — паэт выдатны, нягледзячы на ўсе хібы і заганы, а яго непаслядоўнасці толькі падкрэсліваюць яго аўтэнтычную паэтычнасць.

Мой сціплы нарыс хай будзе скромным укладам у адзначэнне васьмідзесятай гадавіны з дня нараджэння паэта-вязня і паэта-выгнанніка, які ўпарта шукаў зваротнага шляху ў Беларусь.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# 50 ГАДОЎ ПОДЗВІГУ ГРЫГОРЫЯ КУНАВІНА НА ПОЛЬСКАЙ ЗЯМЛІ

Незабыўнае здарылася ў маім жыцці паўвека таму на польскай зямлі. Была Вялікая Айчынная вайна. У студзені 1943 года, у сваe няпоўных васемнаццаць гадоў стаў я курсантам Маскоўскага стралкова-мінамётнага вучылішча Чырвонай Арміі, пасля заканчэння якога ў 19 гадоў стаў я камандзірам узвода ў 1021 Стралковым палку 307 Навазыбкаўскай стралковай дывізіі на II Беларускім фронце. Пасля вызвалення Беларусі наша дывізія, фарсіраваўшы раку Нёман у раёне горада Гродна, пачала весці ў другой палове ліпеня 1944 г. цяжкія баі за вызваленне Польшчы. Я ганаруся тым, што ў гэтых баях здзейсніўся смелы, інтэрнацыянальны, гераічны подзвіг на польскай зямлі майго аднапалчаніна, памочніка камандзіра ўзвода 1021 Стралковага палка, былога чыгуначніка з горада Каменск-Уральскі, яфрэйтара Грыгорыя Паўлавіча Кунавіна.

26 ліпеня 1944 г. у баі за вёску Гарасімовічы, што ў Беластоцкім ваяводстве, рота, у якой служаў Грыгорый Кунавін, залегла пад агнём фашысцкага кулямёта. Вораг страляў з узгорка і да яго нельга было падабрацца. Але Кунавін змог гэтае зрабіць. Падабраўшыся пад амбразуру, ён накрыў яе сваім целам. Рота імпэтнай атакай асвабадзіла вёску. Грыгорый Кунавін здзейсніў самаахвяраванне. Даведаўшыся аб яго подзвігу жыхары вёскі Гарасімовічы вырашылі навечна занесці імя расейскага героя ў спісы ганаровых грамадзян вёскі, прысвоіўшы яго імя мясцовай школе, якая носіць імя героя па сённяшні дзень.

Было вырашана таксама, што настаўнікі кожны год першы ўрок у першым класе пачынаюць з расказа аб героі, яго саратніках-аднапалчанах, чыёй кроўю для польскіх дзяцей былі здабыты мір, шчасце і свабода. Няхай іх сэрцы напаўняюцца гонарам за рускага брата-славяніна, за дружбу расейскага і польскага народаў. За бясстрашны подзвіг на польскай зямлі Грыгорыю Паўлавічу Кунавіну Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР было прысвоена высокае званне Героя Савецкага Саюза.

На наступны дзень, 27 ліпеня 1944 года, пры вызваленні горада Дуброва-Беластоцкая, што ў пяці кіламетрах ад вёскі Гарасімовічы, пры абстрэле нашых пазіцый варожай артылерыяй я быў цяжка кантужаны і каля трох месяцаў знаходзіўся ў бальніцы на лячэнні.

З Польшчы я вярнуўся ў роднае Падмаскоўе, а пасля, з увагі на стан здароўя, я быў вызвалены ў запас. Пасля выздараўлення я вучыўся, атрымаў спецыяльнасць і ўсё жыццё працаваў. Прабываючы на заслужаным адпачынку, я часта ўспамінаю дарогі вайны і аднапалчан, якія аддалі сваё жыццё ў барацьбе з фашызмам.

Памятаю Беларусь і Польшчу, якімі іх пакінулі фашысты пасля акупацыі: спаленыя і разбураныя.

Я некалькі разоў на свае сродкі наведваў памятныя для мяне мясціны ў Польшчы ў 1989, 1991, 1992 і 1993 гадах. Выказваю сардэчную падзяку колішняму Ваяводскаму праўленню Таварыства польска-савецкай дружбы ў Беластоку, якое дало мне магчымасць упершыню пабываць у памятных для мяне мясцінах. Першы раз, 1 верасня 1989 года, мяне запрасілі на святочную лінейку ў школу ў Гарасімовічы, дзе я выступіў з успамінамі перад школьнікамі. Прымаў я таксама ўдзел на мітынгу ля магілы аднапалчан, якія аддалі жыццё за вызваленне Польшчы ад фашызму, ушанаваў памяць паўшых у баях хвілінай маўчання.

Выказваю сардэчную ўдзячнасць дырэктару школы ў Гарасімовічах, Агаце Борух і старажылу гэтай вёскі Станіславу Станіслаўчуку, які прымаў удзел у пахаванні Г. П. Кунавіна і яго аднапалчан, за іх гасціннасць.

Я таксама вельмі ўдзячны жыхарам горада Беластока: Пятру Кліму і Вітальду Сацэвічу — былым афіцэрам Войска Польскага, з якімі я пазнаёміўся пры першым наведванні Польшчы, за іх добрыя адносіны да мяне — удзельніка вызвалення Беластоцкага ваяводства ў гады вайны.

Пры наведванні школы ў 1993 годзе яе дырэктар выдзеліла мне вучняў, з якімі хадзіў я на магілы маіх аднапалчан ушанаваць іх памяць. Тады яна запрасіла мяне наведаць вёску ў дзень 50-годдзя яе вызвалення ад нямецка-фашысцкіх акупантаў.

Я з вялікім жаданнем і ўвагай да загінуўшых аднапалчан наведаў вёску Гарасімовічы 26 ліпеня 1994 года. У прысутнасці дзяцей, а таксама Станіслава Станіслаўчука і беластачаніна Пётра Кліма наведаў я магілы, дзе мы ўсклалі кветкі, запалілі свечкі і ўшанавалі памяць пакойнікаў хвілінай маўчання.

Я перапісваюся з сястрою героя — Параскевай Паўлаўнай, якая жыве ў Малдове і з музеем Г. П. Кунавіна пры школе н-р 60 горада Каменск-Уральскі Екацярынбургскай вобласці ў Расеі.

Я перакананы, што ў Польшчы простыя людзі шануюць памяць расейскіх і польскіх салдат, якія аддалі сваё жыццё паўвека таму пры вызваленні краіны ад фашысцкай няволі.

**Ветэран вайны і працы,**
**ВЯЧАСЛАЎ УЛАДЗІМІРАВІЧ ГАРШКОЎ,**
**гор. Клін, Расея**

 

# ПАРАДЫ ГАСПАДАРАМ

**Угнойванне**

Сенажаці і пашы неабходна ўгнойваць таксама як і ворыўныя ўгоддзі — калійнымі, фосфарнымі і азотнымі ўгнаеннямі.

**Азотныя ўгнаенні** патрэбныя перш за ўсё на нетарфяных глебах і ў прыватнасці на пашах. Азотныя ўгнаенні садзейнічаюць хуткаму адрастанню травы.

Пашы на нетарфяных глебах патрабуюць каля 300—400 кг „салетшаку" або „салетры" на 1 гектар. „Салетра" рассяваецца вясной.

Апрача штучных угнаенняў вельмі добрым азотным угнаеннем з'яўляецца гнаявая жыжка (гнаёўка). Найкарысней яе разліваць на сенажаці ў пахмурны, дажджлівы дзень. Найлепшым тэрмінам ўжывання гнаявой жыжкі з'яўляецца ранняя вясна або перыяд пасля першага пакосу.

**Калійныя ўгнаенні** карысныя ўсім сенажацям і пашам. Гадавая порцыя калію для тарфяных глеб складае прыблізна 2—3 цэнтнеры 40% калійнай (патасовай) солі на 1 га.

Калійныя ўгнаенні прымяняюць восенню або ранняй вясною. Калійную соль можна таксама рассяваць пасля першага пакосу.

**Фосфарныя ўгнаенні** садзейнічаюць павышэнню ўраджайнасці сенажацей, а таксама ў значнай ступені павышаюць якасць пашы. Звычайна рэкамендуецца прымяняць у год 2—3 цэнтнеры „суперфасфату" на 1 га сенажаці ці пашы. Звычайна сеюцца сумесна з калійнымі ўгнаеннямі.

Як фосфарнае ўгнаенне на сенажаці і пашы можна прымяняць звычайны **драўляны** попел. Ён выдатна садзейнічае росту травы. Дзеля гэтага варта збіраць драўляны попел і сеяць яго на сенажацях і пашах як угнаенне.

Найбольш цэнны сярод усіх угнаенняў — натуральны гной (**аборнік**), які рэкамендуецца ўжываць што 3—5 год. Найлепшы тэрмін угнойвання — гэта позняя восень, калі існуюць спрыяльныя ўмовы пранікання пажыўных частак „аборніка" ў глебу, да карэння раслін.

На сенажаці і пашы карысна восенню тонка разаслаць бульбяныя сцяблы. У час доўгай восені і зімы асадкі вымываюць са сцяблоў пажыўныя рэчывы, а сцяблы затрымоўваюць снег, што спрыяе захаванню вільгаці ў вясенні перыяд.

**Вапнаваць** трэба сенажаці і пашы на глебах кіслых, нетарфяных.

Пашавыя ўгоддзі трэба дзяліць на часткі, што дазваляе лепш на іх гаспадарыць у час выпасу жывёлы (касіць недаедзеныя купіны і астаткі парасніку, угнойваць).

**Сенажаці трэба касіць** не ніжэй чым 5 см ад зямлі. У іншым выпадку многія расліны пазбаўлены магчымасці хуткага адрастання.

**Сушэнне сена** павінна праводзіцца, па меры магчымасці, на сухім месцы. Хуткасць высыхання сена пабольшвае яго пажыўныя якасці.

**Барацьба з пустазеллем** на сенажацях і пашах — справа неабходная. Часцей за ўсё на нашых сенажацях і пашах расце і развіваецца чарот (у многіх гатунках) і хвошчка. Знішчыць чарот можна шляхам частага нізкага яго выкошвання ў час дажджоў. Хвошчку можна знішчыць шляхам меліярацыі (асушкі) сенажаці ці пашы, глыбокага арання і валавання.

Сенажаці неабходна падсяваць, але для гэтага іх неабходна падрыхтаваць (згладзіць купіны, лёгка забаранаваць). Для пасеву найчасцей ўжываюцца матылькоўыя расліны. З траў — сенажатная „кастшэва" (аўсяніца) і цімафеёўка.

**ЯСЕНЬ**

# ГАРАСКОП ДРУЇДАЎ

## 6

ХВОЙКА, *(19—28 лютага, 24 жніўня — 2 верасня)*. Ні халады, і спякота не напалохаюць хвойку. Непатрабавальная яна і да глебы, а таму расце амаль паўсюдна: на пяску, на балоце, у гарах. Мяркуюць, што ад кельцкай назвы скалы — пін — паходзіць навуковае імя ўсяго роду хвоек — пінус. Друіды не маглі не заўважыць дрэва, якое так дасканала прыстасавалася да ўмоў суровай горнай прыроды. Яны пераканаліся таксама, што хвойкі і тыя з людзей, хто нарадзіўся ў днях 19—28 лютага і 24 жніўня — 2 верасня, маюць шмат падабенстваў. Яны вылучаюцца адвагай і смеласцю, прывабныя, ведаюць пра сваю абаяльнасць і часта карыстаюцца ёю.

А хто не любаваўся борам, дзе, як пісаў Максім Багдановіч, „танкаствольныя сосны звіняць"! Прыгожыя і хвоі, што выраслі на прасторы. Хвоя на скалах, сярод валуноў, пахіленая сіверам, пакручаная вятрамі — любімы матыў фатографаў і мастакоў. Людзі-хвойкі змогуць схіліць на свой бок іншых людзей, выкарыстаць для ўласных патрэб нават умовы. Дрэва ж, калі расце на пяску, пускае доўгія карані, якія на канцах аплецены грыбніцай: так хвойкі здабываюць сабе дадатковае харчаванне. Людзі-хвойкі маюць поспех незалежна ад галіны навукі ці вытворчасці, у якой яны працуюць. І толькі ў каханні выяўляецца іх слабасць. Даволі імпульсіўныя і гарачыя, яны лёгка захапляюцца, а таму часта перажываюць расчараванні.

*(працяг у наступным нумары)*

# ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. кашэнне, 3. выконвае сольную партыю, 5. горад над Адрыятыкай, недалёка Сан-Марына, 7. прыродны вадаём, 9. канец малітвы, 10. аэрастат для палётаў у стратасферу, 11. рэлігійнае перакананне, 12. двухколы воз у Сярэдняй Азіі, 14. амплітуда, 16. норма харчоў або корму, 17. сібірская рака.

**Вертыкальна:** 1. кладоўка, 2. горад на „пяце" Італіі, 3. зімовая павозка, 4. Іосіф Джугашвілі, 6. палітычнае панаванне ваеншчыны, 8. кубінскі правадыр, 9. любіцель, 11. планета, 13. вялікі індыйскі горад, 14. адміністрацыйная адзінка, 15. горад у ФРГ пры граніцы з Бельгіяй і Галандыяй.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 27 н-ра:**

**Гарызантальна:** маяк, пасаг, ураган, карп, выраб, апарат, перакпад, кагал, Аклахома, Гайнаўка, удава, кавапіха, калода, азарт, рэчы, Зэльва, Лодзь, граб.

**Вертыкальна:** карыта, канапа, абаранак, купал, захад, раман, Белгарад, паказуха, куга, Гойа, кола, каса, калічка, дазвол, Вердзі, Карэя, кольт, вараг.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Пятру Байко** з Белавежы і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# З КУФЭРКА БАБУЛІ НАДЗЕІ

*(працяг; пачатак у 21, 31 і 33 н-рах)*

## (4)

На гэты раз Надзея Руско прапануе чатыры песні, розныя па зместу і характару.

*

Ой, пайду я лугом
Ой, пайду я лугом, лугом,
дзе мой мілы гарэ плугом.
Панясу я яму есці,
чы не скажэ вон мне сесьці?

І напіўса, і наеўса,
і на ролю паваліўса.
Чаго ты ляжыш, чом не гарэш,
чом да мане не говорыш.
А я ляжу, то і думаю,
шчо ліхую жонку маю.
А чым жэ я абвініласа,
што рудою радзіласа,
чарняваму судзіласа?

**Гапак**

Гоп, гоп, гапака!
Прымі маці прымака.
Ні такого, ні якого,
малодчыка маладого.
Коб сам маладый,
коб і конік вараный,
коб і шапачка высока,
шчэ і кветка кала бока.

**Калыханка**

Люляй, люляй, дзіціно малая,
дзесь гуляе маці маладая.
Гуляй, гуляй, маці маладая,
пакі мая галоўка жывая.
А як мая галоўка скітнецца,
тады твае гулянне мінецца.

**Малітва (?)**

О, Божэ наш літасцівы!
І змілуйся ты над намі,
грэшнымі душамі.
Бо у раю абед дают
— салодкі мэд налівают.
А у пэклі абед дают
— серку, смалу падлівают.

Запісаў
**ПЁТР БАЙКО**

# ЧОРНАЯ СМЕРЦЬ

Анэта і Крыштаф пазнаёміліся летам у Калабжэгу. Анэта прыехала з Беласточчыны да сяброўкі, а хлопец — са Шлёнска да цёткі. Анэта была студэнткай геаграфічнага факультэта, а Крыштаф працаваў штэйгерам у шахце. Спаткаліся ў кавярні. Пілі гарбату і размаўлялі, а праз паўгадзіны адчувалі сябе, быццам ведалі адзін аднаго цэлую вечнасць.

Маладыя сустракаліся кожны дзень, хадзілі ў парк, у кавярню на марожанае. Было ім добра разам. Марылі пра супольную будучыню. Ад'язджаючы з Калабжэга памяняліся адрасамі.

— Выкінь ты яго з думак, дачушка, — раілі Анэціны бацькі. — У яго такая небяспечная праца. Хоць ён і не просты шахцёр, але таксама працуе пад зямлёй. Ты не ўяўляеш сабе, што такое праца ў шахце! Там жа смерць на кожным метры! Смерць заглядае ў вочы кожны дзень!

— Не магу жыць без яго. Проста, мы вельмі моцна кахаем адзін аднаго.

Колькі пошта зарабіла дзякуючы Анэце і Крыштафу, колькі чыгунка — Бог адзін ведае!

Калі Анэта закончыла адукацыю, пабраліся шлюбам. У Крыштафа была вялікая кватэра, але марыў паставіць двухпавярховы, выгодны дом. Купіў нават новую мэблю. Анэціны бацькі цешыліся, што дачка трапіла на такога добрага і адказнога мужа. І сяброўкі зайздросцілі ёй сямейнага шчасця.

Анэце было цяжка прывыкнуць да новага краявіду, да паветра. Пайшла працаваць настаўніцай у пачатковай школе. Добра спраўлялася са сваімі абавязкамі, падабалася калегам і дырэкцыі, любілі яе вучні. І мужава сям'я была вельмі людская. Праз тры гады ў Анэты і Крыштафа было ўжо трое дзяцей.

Аднойчы Крыштаф не вярнуўся з працы. У шахце была аварыя — абсунулася сцяна. Шасцёх шахцёраў цяжка параніла, Крыштафа — смяртэльна.

— Божа, дзе тут на свеце справядлівасць! — лямантавала Анэта. — Праз гэты вугаль толькі людзей гіне, асірочвае сем'і! Для людзей вугаль ёсць толькі вуглем, а для шахцёра ён — чорная смерць!

— Такі, відаць, лёс, — сумна сказаў свёкар. — Мой бацька пакінуў нас пяцёра, а пасля не вельмі цяжкіх ранаў дачакаўся пенсіі, а мой добры сын асірацію трое маленькіх дзетак!

— Як жа ж мы будзем жыць, Крыштаф! Якраз тады табе трэба было ісці на праверку! — ламала рукі маладая ўдава.

Калі наймалодшы сын пачаў гаварыць, сказаў: „Тата", Анэта заплакала.

**АЎРОРА**




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраповіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1994 r. upływa 20 sierpnia 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 9000 zł., a kwartalnie - 117000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.


 

# ПІШУ ЯК ЖЫВУ

*(вынятка з кнігі)*

* * *

Генадзь Цітовіч і на помніку сваім падобна ўсмешлівы. Ажно мне ўспомніўся адзін з яго расказаў:

У вагоне, з выпадковым суседам, палякам.

— Гдзе пан мешка? — спытаўся той, як пачалі знаёміцца.

— У Баранавічах.

Тады, адразу пасля вайны, наш выдатны работнік роднай культуры і нястомны весялун жыў там.

— О, — сказаў пан сусед, — го было польске място!

— А пан гдзе мешка? — пытанне ў сваю чаргу.

— Я, проша пана, мешкам у Варшаве.

— О-о, то было росыйске място!!

Логіка — адна.

**ЯНКА БРЫЛЬ**

# БЕЗ ГІМНА, ЯК БЕЗ РУК

*Стварэнне новага гімна Рэспублікі Беларусь зайшло ў тупік. Тэксты, што прапануюцца да разгляду, або дрэнныя, або нікуды не вартыя. Аднак далей цягнуць нельга, трэба ж нешта спяваць. Менскі сатырычны часопіс „Вожык" аб'явіў свой конкурс і надрукаваў першы тэкст, закадзіраваны пад сімвалам „Слава".*

Мы, беларусы — ціхія людзі,
Вечна шукаем к шчасцю дарог.
Што з гэтых пошукаў вартага будзе,
Ведае, хіба, адзін толькі Бог.

Ў нашым мінулым — слаўныя даты,
Можам іх памятаць, можам — забыць.
Мы без падтрымкі старэйшага брата
Кроку не здольныя нават ступіць.

Маем мы многа мудрых вучоных.
Мудры парламент, мудры урад.
Выведуць к раю — ў рублёвую зону —
Гэй жа, наперад! Гэй жа, назад!

Ўсе мы са згоды рушым да згоды.
Хочаш не хочаш — трэба ісці.
У нашых Саветах — слугі народа,
Служаць штодня з дзевяці да шасці.

# СЕНТЭНЦЫІ

У парламенце Прыроды
і жабе даецца слова.

* * *

У марах кожны гаспадар свайго лёсу,
у жыцці гаспадаром — лёс.

**БАРЫС РУСКО**





Мал. Я. Бусла

# ЭНЕРГІЯ І ДУХ

— Што ж, — уздыхнуў доктар. — Усё правільна. Расплата за бурнае жыццё, бяздумнае транжыраванне сіл...

Перасунскі апрануўся, цяжка дыхаючы ад натугі.

— Глядзіце сюды, у гэтае акенца, — паказаў эскулап. — Бачыце лічбу? Колькі?.. Вось і яно. А ў норме для нашага ўзросту — 14 мільёнаў у сёмай ступені... Майце на ўвазе, гэты камп'ютэр — апошняе слова тэхнікі, ад самой „Дайновы", ён ніколі не памыляецца.

— А ці ёсць... Нейкія сродкі, лекі якія? — спалохана запытаў Перасунскі. Яго чырвоны ў сініх нітачках нос яшчэ больш пасінеў, апух бульбінаю і апусціўся долу.

— Ніякіх! — катэгарычна адказаў, як адрэзаў, доктар. — Медыцына пакуль бяссільная. Гэта ўсё роўна, як ажывіць мёртвага. Зрэшты... Адно магу параіць. Жорсткі ашчадны рэжым! Як мага эканоміць жыццёвую энергію, якая яшчэ засталася. Ніякага спіртнога. Не курыць, не хваляваацца, не пераядаць. І не перасільвацца. Адмовіцца ад мясной, мучной, малочнай ежы, агародніну — строга абмежавана. Спаць асобна ад жонкі...

Цяжка, ой як цяжка было развітвацца з даўнімі звычкамі, схільнасцямі, слабасцямі, урэшце — з сябрамі і сяброўкамі. Але на якія страты не пойдзеш дзеля захавання жыцця!

Перасунскі мусіў адмовіцца нават ад кефіру, ад кавы і гарбаты. Тэлевізар прадаў, радыё занёс у падвал. „Жыгулі" падараваў зяцю. У бок жанчын нават не глядзеў — раптам якая гарэзніца ўсхвалюе!..

— Яшчэ пажывём, — цешыў ён сябе.

Мо і пражыў бы Перасунскі яшчэ гадоў колькі. Але энергія, рэшткі якой захаваліся ў яго, пачала бунтаваць, не знаходзячы аніякага выйсця.

— Хіба ж гэта жыццё? — скардзілася энергія свайму суседу і сябру — духу Перасунскага, у якім знаходзіла спагадлівага слухача. — Горш як за кратамі. От, раней было жыццё!..

Чым больш эканоміў жыццёвыя сілы Перасунскі, тым болей сумавала і выказвала сваё незадавальненне энергія. Нарэшце, не вытрымала і пакінула Перасунскага. Разам з духам...

**ВАСІЛЬ ФЕРАНЦ**

# СМЕХ У САНАТОРЫІ

— Чаму ты прадаў сваю трубу? — пытае адзін музыкант другога.

— Даведаўся, што мой сусед атрымаў дазвол на ружжо.

* * *

— Умееш плаваць?

— Умею.

— Дзе навучыўся?

— У вадзе.

* * *

— Што трэба зрабіць, каб атрымаць адпушчэнне грахоў?

— Награшыць.

* * *

У пустой бальнічнай зале сядзіць моўчкі двух вар'ятаў. Урэшце адзін з іх азываецца:

— Можа, пагутарым ці ў нешта пагуляем, бо інакш з нуды звар'яцеем.

* * *

Паліцыянт уваходзіць у краму і просіць дзве шнуроўкі.

— Якія? — пытае прадаўшчык.

— Адну левую, другую правую.

* * *

— Пан доктар, ужо трэцяга дня пасля шлюбу я аглух на правае вуха.

— Ваша жонка ляўша?

* * *

— Вы павінны кінуць курэнне, — раіць пісьменніку лекар.

— Не магу. Калі закуру, прыходзяць мне ў галаву творчыя думкі.

— Дык прынамсі пачніце курыць папяросы лепшай маркі.

* * *

— Замнога п'еце, — гаворыць лекар хвораму.

— Ведаю, пан доктар, гэта ад дэпрэсіі.

— А якая прычына гэтай дэпрэсіі?

— Гарэлка такая дарагая.

* * *

На пахаванні:

— Які лекар апекаваўся вашай жонкай? — пытае ўдаўца адзін з удзельнікаў хаўтураў.

— Ніводзін. Сама памерла.

Даслаў
**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

## ІСТОТЫ-ЛЮДАЖЭРЫ

Людажэрства, або канібалізм, звычайна прыпісваюць самым дзікунскім плямёнам — папуасам, афрыканцам і беларусам, бо ў нацыянальным характары апошніх схільнасць есці адзін аднаго ці не асноўная. Любая істота, хоць аднойчы пакаштаваўшы чалавечага мяса, не можа забыцца на яго салодкі смак. Прага людажэрства назіраецца не толькі ў паспалітых насельнікаў, але і ў адукаваных інтэлектуалаў, аднак мала хто з іх прызнаецца ў сваіх канібальскіх упадабаннях. Натуральна, гастранамічная схільнасць да свежага чалавечага мяса — справа надзвычай інтымная, напэўна, не менш, чым хаджэнне ў прыбіральню і задавальненне палавых патрэбаў. Пра гэта таксама больш маўчаць, чым гавораць... Людажэрства, між іншым, уласціва не толькі для адукаваных здзічэлых інтэлектуалаў, але і для не менш прымітыўных істотаў — ваўкоў, пацукоў, вошаў і могілкавых чарвякоў. Падчас лабараторных доследаў навукоўцы-пачваразнаўцы заўважылі, што істоты, якія спажываюць выключна чалавечыну, з цягам часу набываюць рысы сваіх ахвяраў, бо ідзе натуральны абмен рэчываў. Жывёльныя клеткі замяшчаюцца чалавечымі, і людажэры пачынаюць разумець не толькі пачуццё натуральнага голаду, але і больш складаныя эмоцыі: каханне, распусную юрлівасьць, тугу, сум, смутак, жальбу і нават немудрагелісты гумар. Людажэраў можна сустрэць паўсюдна, ім можа аказацца не толькі палітык, за якога вы галасавалі на апошніх выбарах, але і больш блізкі вам чалавек. Прыгледзьцеся ўважліва, і вы абавязкова ўбачыце, што адны ядуць вашую душу, а другія — прагнуць вашага цела. У мэты гэтай навуковай распрацоўкі не ўваходзіць высвятленне маральных аспектаў людажэрства, але мы аднадушныя ў тым, што пажыранне трупаў мусіць быць рэабілітавана ў вачах грамадскасці, як і хірургічная перасадка органаў...

## ПАЦУК МОГІЛКАВЫ

Менчукі-старажылы небеспадстаўна лічаць былыя базыльянскія муры, у якіх цяпер месціцца 2-я гінекалагічная бальніца, месцам нядобрым і выклятым, а ноччу — і небяспечным для жыцця. Праўда, аматары моцных трункаў з Траецкага прадмесця пасля наведвання корчмаў і шынкоў з нацыянальнай беларускай кухняй ("Жигулёвское пиво" "Русская водка" і "Likier poznański"), не маючы іншага выйсця, працягваюць свае алкагольныя імпрэзы ва ўзбярэжным хмызняку, рэштках базыльянскага саду, бо гнюсныя менскія міліцыянты палохаюць іх нават больш, чым прывіды уніяцкіх манахаў. Пры трупярні гінекалагічнай бальніцы і дагэтуль існуе невялікая доследная лабараторыя, дзе студэнты-практыканты вучацца рабіць аборты на пацучыхах. Агульным улюбёнцам студэнтаў-практыкантаў быў вялізны пацук па мянушцы Базыль; гэта быў адзіны самец на ўсю лабараторыю, ён выконваў ролю асемяняльніка. Спагадлівыя студэнты і студэнткі падкормлівалі пацука, хто чым мог. Найбольш заможныя дзяліліся з ім апошнім кавалкам вяндліны; а самыя бедныя цягалі з трупярні кавалкі чалавечыны і плеўкі эмбрыянальнае тканкі. Але настаді канікулы; студэнты зніклі з лабараторыі, і згаладаламу пацуку давялося перабрацца на бліжэйшыя могілкі. Спярша ніхто не мог даўмецца, чаму штоноч магілы разрываюцца адна за адной, і трупы знікаюць без следу; пракуратура, якая пачала расследаваць гэтую справу, палічыла, што нябожчыкаў крадуць рэкецёры з мэтай атрымання выкупу. Але і пасля таго, як міліцыя пералавіла ўсіх могілкавых бандытаў, трупы знікалі па-ранейшаму. Кропку ў гэтай справе паставіла наступнае здарэнне: аднойчы, не дачакаўшыся свежага мерцвяка, галодны пацук выправіўся на пошукі, бо небараку нічога больш не заставалася, як паляваць на жывых. Прынюхаўшы сабе ахвяру, якой аказалася цыганка Ада Ю., Базыль пераследаваў яе да вакзальнай прыбіральні, дзе тая мела сталы прытулак. Пацук-людажэр, дачакаўшыся, пакуль тая не ўладкуецца ў кабінку, скочыў ёй на плечы. Невядома, чым магла б скончыцца гэтая драматычная сцэнка, калі б своечасова не прыбылі пажарныя, якія ўмомант затапілі прыбіральню вогнетушыльнай пенай... Такім чынам ускосна пацвердзілася слушнасць меркавання пра неабходнасць своечасовай крэмацыі трупаў і шкоднасць абортаў...

*(працяг будзе)*

Падрыхтавалі
**ФРАНЦІШАК ХЛУС і МАРЦІН ЮР**